# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 8 (626) ГОД XIII 25 ЛЮТАГА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### З ДЗЕЙНАСЦІ АДДЗЕЛА

Мінулы 1967 год у гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку быў даволі працавіты. А вось чым займалася праўленне: 2 разы ў тыдзень за выключэннем летніх месяцаў адбываліся ў клубе аддзела занятк і музычнага курсу ігры на акардэоне. У школьным 1966/67 годзе такі курс закончыла 47 дзяцей. У гэтым навучальным годзе вучыцца 36 дзяцей.

У палове 1967 г. існаваў пры аддзеле рэактываваны хор. Але з адходам яго кіраўніка Міхася Ануфрыева хор распаўся. У мінулым годзе для членаў і сімпатыкаў гарадскога аддзела БГКТ высветлена 45 савецкіх фільмаў.

Было арганізаваных 5 урачыстых пасяджэнняў (акадэмій), а менавіта: 1) на 75 гадавіну з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча, вялікага дзеяча беларускага даваеннага руху, 2) на гадавіну Савецкай Арміі, 3) на дзень жанчын, 4) на свята працы і 5) на 50-тую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Даволі сістэматычна праводзілася так званая адчытовая дзейнасць. Праводзіліся цікавыя сходы і спатканні. І так: а) на 25-тую гадавіну ППР адбылася сустрэча з Міхасём Баравіком, які падзяліўся ўспамінамі аб першых гадах ППР на Беласточчыне, б) арганізавана таксама спатканне былых ППР-аўцаў, в) адбылася сустрэча з Дзімітрам Карповічам, былым начальнікам штаба партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага, які дзейнічаў на Беласточчыне, г) была арганізавана сустрэча беларускай інтэлігенцыі, д) аб гадавіне падпісання польска-савецкага дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе расказваў лектар ТППР, е) адбыліся сустрэчы з паэтэсай Ларысай Геніюш, ж) вучоным археолагам Л. Паболем і былым дзеячам КПЗБ — Гэленай Буднік, з) адзначыў аддзел 450-годдзе беларускага друку. Была праведзена гутарка аб беларускім друкары Францішку Скарыне, і) аб сваёй творчасці гаварыў Віктар Швед на аўтарскай сустрэчы, а Аляксандр Баршчэўскі — аб савецкай літаратуры, й) 85-ую гадавіну нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа адзначыў аддзел гутаркай аб іх жыцці і творчасці, к) таксама адзначалася 80 гадавіна нараджэння Цішкі Гартнага, гэтай трагічнай постаці малавядомага беларускага пісьменніка, журналіста і палітычнага дзеяча. Аб гэтых дзвюх вышэй успомненых гадавінах гаварыла Вера Леўчук, л) аб 900-годдзі Мінска расказваў сакратар ГП, м) свой вечар успамінаў мелі заслужаныя дзеячы.

З іншых мерапрыемстваў аддзела трэба адзначыць: паездку ў Ялоўку на мітынг дружбы, навагодняю ёлку, фотавыстаўкі і танцавальныя вечары.

*

10 лютага гарадскі аддзел БГКТ адзначыў урачыстай вечарынай 130-тую гадавіну з дня нараджэння кіраўніка студзеньскага паўстання на Літве і Беларусь — Кастуся Каліноўскага. З цікавым дакладам аб рэвалюцыйнай дзейнасці Кастуся Каліноўскага на Беласточчыне выступіў галоўны рэдактар «Нівы» Георгі Валкавыцкі. На мастацкую частку зладжыўся паэтыцкі рэчытаць Веры Леўчук пад загалоўкам «Кастусь Каліноўскі ў літаратуры». Былі па-мастацку прачытаны ўрыўкі твораў многіх беларускіх пісьменнікаў.

*

11 лютага з ініцыятывы гарадскога аддзела выступіла ў памяшканні ГП эстрада «Лявоніха». (мх)

**50 ГОД САВЕЦКАЙ АРМІІ І ВАЕННА-МАРСКОГА ФЛОТУ**



Марскі дэсант.

## Пад чырвонай зоркай

## У ПРУСІІ

Немцы пагналі іх капаць акопы. Некалькі кіламетраў далей грымеў фронт. Сабралася іх 5 чалавек: 3 рускіх, 1 паляк з-пад Варшавы і ён — Уладзімір Гадоньчук з вёскі Малочкі, тады 22-гадовы юнак. Дамовіліся ўцякаць. На працягу 3-хгадовай пабыўкі ва Усходняй Прусіі была гэта ўжо чацвёртая яго спроба ўцёкаў. На гэты раз паспяховая. У Эстоніі сустрэлі чырвонаармейцаў.

Уладзімір Гадоньчук стаў разведчыкам.

Канчаўся 1944 год. Пасля варшаўскай афензівы гітлераўская армія апамяталася аж за Одраў. Аднак сярод лясоў і возераў Усходняй Прусіі заўзята трымаліся даволі вялікія фашысцкія групіроўкі. Ішлі без перапынку баі. Штабы патрабавалі звестак пра ворага. Гадоньчук расказвае:

— Ноччу пайшлі мы ў разведку. Перабраліся праз адны траншэі, дайшлі да другіх акопаў, а немцаў няма. Выйшлі мы з лесу. І тут бачым — стаіць нейкая хата, а ля яе нямецкі патруль ходзіць, грэецца. Ванька, здаровы сібіряк, кажа: «Я его сниму», — і папоўз. Мы з аўтаматамі напаготове ляжым у снезе і чакаем. Немец адышоў за вугал. Тады Ванька падскочыў пад дом і прыліп да сцяны. «Вэр іст да?» — адазваўся немец. Таварыш, які ляжаў побач мяне, пытае: «Чего этот немец по-нашему ругается?» Я ведаў нямецкую мову, гавару яму: «Што ты? Ён жа пытае: «Хто тут?» У той момант Ванька Сібірак накінуўся на немца, злавіў яго за горла і паваліў на зямлю. Мы падпаўзлі на дапамогу. «Язык» з гэтага фрыца аказаўся марны. Нічога цікавага нам не сказаў, дык звязалі мы яму рукі, павесілі на шыю дошку, на якой напісалі: «Нам — не «язык», а вам — не ваяка» і пусцілі яго назад.

Разведчыкам нароўні з іншымі салдатамі прыходзілася часта ўдзельнічаць непасрэдна ў баях. Гадоньчук расказвае:

— Было гэта 14 сакавіча 1945 года. Ужо другі дзень з-пад Элку наступалі мы на Кенігсберг. Штурмам прабеглі нейкі луг, перабраліся праз рэчку, а за рэчкаю ў лесе былі немцы. Замочаны па грудзі ў ледзяной вадзе, я ўпаў на раскіслую зямлю. Чую, што па лесе нясецца нямецкі кліч: «Абфарт цурык!» Значыць немцы адступаюць. Устаю на ногі і... аж валасы ў мяне на галаве з'ежыліся. Нейкіх 30 метраў перада мною — за дрэвамі — 5 немцаў. «Гэндэ хох!» — крычу і працягваю аўтамат. Немцы кінуліся ўцякаць. Я цягну за курак, аўтамат аднак маўчыць. Кроў адшла з твару. У тую хвіліну прыпомніў, што я сам выняў дыск з аўтамата, калі пераправляўся праз рэчку, каб не замачыць патронаў, і схаваў яго ў торбу. Гляную ў лес. За дрэвам схаваўся адзін фрыц і цэліцца ў мяне з аўтамата. Я ў яго таксама, але мой, ведаю, пусты. Стаю быццам акамянелы. Не прышло нават у галаву, каб упасці на зямлю. Раптам хтосьці, як абухам, ударыў мяне па патыліцы. Пацямнела ў вачах, і я паваліўся. Думаў, што нейкі фрыц падбег ззаду і пачаставаў мяне прыкладам. Стараўся не варушыцца, каб не даць знаку, што яшчэ жыву. Чую аднак, што штосьці цёплае расплываецца мне па шыі. Ас-

(Працяг на стар. 4)



Уладзімір Гадоньчук — салдат.

# АДЗІН У ПОЛІ НЕ ВАЯКА

— Што тут зрабіць? Што тут зрабіць? — паўтарае Аліцыя Ляўковіч. — Я ўжо зусім не ведаю, што тут яшчэ можна зрабіць.

Пані Аліцыя Ляўковіч родам з Сяміцыч, ад некалькіх год працуе выхавацельніцай у дзіцячым садзе ў Орлі. Праўду кажучы, Аліцыя Ляўковіч магла б жыць сабе зусім спакойна, удзень забаўляць лялькамі арлянскія маленствы, увечары аглядаць тэлевізар, варыць абеды, ды ездзіць у Бельск за пакупкай. Аліцы аднак не па душы такое аж надта звычайнае і спакойнае жыццё. Аліцыя хацела б зрабіць нешта для людзей, з якімі жыве, для асады, у якой працуе. Не для грошай і не з абавязку, а проста так — з прыемнасці і маладога дзявочага энтузіязму. І вось цяпер сядзіць Аліцыя Ляўковіч перад вашым рэпарцёрам ды паўтарае з рэзігнацыяй:

— Проста не ведаю, што тут яшчэ можна зрабіць.

І сапраўды, што можа зрабіць маладая энтузіястка для такой, скажам, Орлі. Маладая энтузіястка мае энтузіязм, але не мае амаль аніякага ўплыву на ход арлянскіх спраў — нават тады, калі энтузіястка гэтая інтэлігентны член партыі і вядомы ў павеце актывіст. Маладую энтузіястку ўвялі ва ўсе дзейнічаючыя ў Орлі камісіі, камітэты і рады. Энтузіястка выступае на нарадах з голасам, у надзеі, што гэтым самым нешта зменіць у арлянскім нудным і нецікавым свеце. Улады цешацца з энтузіясткі, дакладна запісваюць яе выступленні ў тоўстых кнігах пратаколаў — урэшце ёсць каму хаця дыскутаваць на сходах. А свет астаецца якім быў — нудным і нецікавым.

Энтузіястка, як ніхто, адчувае ненармальнасць існуючай у Орлі сітуацыі. Ненармальнасць гэтая ў тым, што штодзённае жыццё ў асадзе страшэнна шэрае і плоскае. Штодзень у мясцовай «кнайпе» ды навокал яе натоўп людзей, вечарамі падхмеленая моладзь сядзіць у кавярні «Руху», тупа глядзіць на брудныя сцены ды страшэнна нудзіцца. Ёсць яшчэ ў Орлі святліца, але холад у ёй большы чымсьці на вуліцы. Неадпаведна пабудаваная печ, шчыліны ў дзвярах, адзіночныя вокны. Прысланая сюды светліцовая, родам таксама з Сяміцыч, проста ў роспачы — не ведае, што ў такіх умовах можна зрабіць акрамя адмыкання і замыкання пустой святліцы. Пані Аліцыя Ляўковіч выступае на ўсіх нарадах і пасяджэннях, тлумачыць: у святліцы неабходныя падвойныя вокны, перабудова печы, рамонт. Прадстаўнікі ўлад запісваюць цэнныя заўвагі ў доўгіх пратаколах і ўласных блакнотах і... ўсё астаецца як было.

— Каб хаця той тэлевізар быў, — гавораць у Орлі, — можна было б пасядзець з гадзінку ў кажусе.

Тэлевізар быў у святліцы, нават не сапсаваны. Папярэдняя светліцовая адхадзячы пераказала яго Грамадскай радзе ў добрым стане. У тым часе тэлевізар сапсаваўся. Калі завезлі ў Бельск у рамонт, аказалася, што нехта павыкручваў з яго вартасныя часткі. Рамонт каштаваў 3 000 злотых. Забракавала грошай на заплату, і такім чынам Орля цэлую зіму без тэлевізара.

З нудаў моладзь пачынае хуліганіць. Падросткі, увайшоўшы ў святліцу, галасуюць неймаверна, ды што горш, выбіваюць шыбы ў адзіночных вокнах. Мясцовы шкляр мае работы. Уставіў аднойчы шыбу ў святліцы, а на другі дзень прыходзіць светліцовая Марыся ды просіць шкляра, каб уставіў у акно новае шкло.

— Я ж учора ўжо ўставіў, — тлумачыць шкляр.

Разбілі зноў і якраз гэтую самую шыбу — на злосць шкляру ці пані Марысі.

— Для нашай моладзі патрэбны толькі міліцыянер з добраю такою палкаю, а не святліца, — тлумачаць мясцовыя ўлады.

(Працяг на стар. 4)

# Паўзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### НЕЗМАЎКАЮЧАЯ ТЭМА

Незмаўкаючай тэмай нумар I ва ўсім свеце ад канца студзеня з'яўляецца справа барацьбы в'етнамскіх партызан. Сапраўдную драму (калі пішам матэрыял) перажывае гістарычны горад Хуэ. Спачатку баранілі яго войскі сайгонскіх марыянетак. Але сіла партызан аказалася на толькі небяспечнай, што ў хуткім часе амерыканцы вымушаны былі замяніць сайгонскую армію сваімі адборнымі атрадамі марской пяхоты. Аднак ні адборнае войска, ні моцныя бамбардзіроўкі з самалётаў і найцяжэйшых гармат ваенна-марскога флоту не ў сілах выйграць вайны.

Сусветны друк, незалежна ад таго, чыім прыхільнікам з'яўляецца, шырока інфармуе аб здзіўляючых баях, якія вядуць паўднёвав'етнамскія патрыёты.

Па-рознаму і з розных бакоў можна праводзіць каментарыі на тэму вялікага наступлення партызан у В'етнаме, але з'яўляецца ўжо фактам, што адзіная ўлада ў Паўднёвым В'етнаме фактычна належыць да ФНВ, таму што 90% тэрыторыі краіны знаходзіцца ў іх руках. Партызаны ўзарвалі масты і кантралююць дарогі, нягледзячы на безупынныя бамбардзіроўкі, утрымоўваюцца нават у некаторых кварталах Сайгона. На вызваленай тэрыторыі арганізуюць народную ўладу, асвету і пункты аховы здароўя.

### ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АКЦЫІ

В'етнамская праблема і сітуацыя ў гэтай вымучанай вайной краіне выклікала ажыўленне дыпламатычных акцый і ў справах В'етнама. Генеральны сакратар ААН У Тан ў апошнім часе наведаў сталіцы Індыі, СССР, Вялікабрытаніі і Францыі. І хаця праведзеныя ім размовы з кіраўнікамі ўспамянутых урадаў акружаны таямніцай, вядома, што датычылі яны спраў В'етнама. Прэм'ер Вільсан запрасіў савецкага пасла ў Англіі і правёў з ім размову на тэму В'етнама. Таксама швейцарскі дыпламат мае пабываць у ДРВ, афіцыяльна, нібы ў справе дапамогі ад імя чырвонага крыжа, але прадбачваецца, што Швейцарыя хоча адыграць ролю пасрэдніка, якую калісьці адыйграла ў вайне між Францыяй і Алжырам. З прапановай сваіх паслуг у перагаворах хоча выступіць таксама Канада.

### ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ

Урачыстае святкаванне 20-ай гадавіны «лютаўскіх дзён» адзначалася ў Чэхаславакіі. «Лютаўскія дні» — гэта дні, у якіх рашалася пытанне: Чэхаславакія будзе буржуазнай ці пойдзе сацыялістычным шляхам.

Чэхаславакія пасля другой сусветнай вайны — гэта апошняя з краін нашага лагеру, у якой буржуазія мела яшчэ правы і ўласнасць. Іменна ў лютым 1948 года, бачачы сацыялістычны напрамак развіцця, падалі ў адстаўку 12 міністраў урада, на чале якога стаяў камуніст К. Готвальд. Рабочы клас запратэставаў дэманстрацыямі двойчы. Такім чынам буржуазны прэзідэнт Бэнэш быў вымушаны паклікаць новы ўрад, які павёў Чэхаславакію шляхам сацыялізма.

А. К.

## БССР

### КАСЫГІН

Сталіцу Беларусі наведаў савецкі прэм'ер **А. Касыгін.** У суправаджэнні кіраўнікоў Беларускай рэспублікі ён пабываў на выстаўцы тавараў народнага спажывання.

**Касыгін** прыняў удзел у XVI Мінскай абласной партыйнай канферэнцыі. У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі таксама беларускі прэм'ер **Ц. Кісялёў,** Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі **С. Прытыцкі,** сакратары беларускага ЦК **У. Міцкевіч, С. Пілатовіч, Ф. Сурганаў, Д. Філімонаў** і іншыя беларускія асабістасці.

### МАШЭРАВА

12 лютага быў апублікаваны ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Саюза ССР аб узнагароджанні ордэнам Леніна першага сакратара ЦК КП Беларусі **Пятра Машэрава.**

### МІТЫНГІ

Беларускія газеты публікуюць паведамленні аб масавых мітынгах салідарнасці з барацьбой в'етнамскага народа.

### КАНТРОЛЮ

Цэнтральны Камітэт беларускай кампартыі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і беларускі савет міністраў выступілі з прывітальным пісьмом у адрас супрацоўнікаў органаў народнага кантролю, усіх народных кантралёраў рэспублікі ў сувязі з 50-годдзем утварэння органаў кантролю ў Саюзе.

З гэтай нагоды ў Палацы культуры прафсаюзаў у Мінску адбыўся ўрачысты сход, у якім удзельнічаў сакратар ЦК КП Беларусі **У. Міцкевіч.**

За актыўную работу ў беларускіх органах народнага кантролю вялікай групе іх супрацоўнікаў прызнаны Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета Беларусі:

**Івану Гатоўскаму, Мікалаю Кутніку, Кацярыне Сцепанчук, Сямёну Швайко, Пятру Грэчку, Яўгенію Кірыенку** з Брэсцкай вобласці, а з Гродзенскай вобласці — **Ганне Кручко, Аляксандру Бяляўскаму, Міхасю Драгуну, Яніне Янкоўскай** і інш.

### НАВІГАЦЫЯЙ

У Брэсцкім рачным порце знаходзяцца на зімовай стаянцы цеплаходы і баржы. У сучасны момант адбываецца рамонт флоту, які перад новай навігацыяй будзе гатовы да плавання ў першай дэкадзе красавіка.

### «СЁННЯШНІ»...

**«Сённяшні стан і далейшае развіццё беларускай дакументальнай і навукова-папулярнай кінематаграфіі»** — гэтаму пытанню быў прысвечаны пленум праўлення Саюза беларускіх кінематаграфістаў.

У 1966 і 1967 гадах беларускія дакументалісты выпусцілі 49 фільмаў.

### ОРДЭН

**«Магілёўская праўда»** ўзнагароджана ордэнам **Працоўнага Чырвонага Сцяга.** Беларускі Вярхоўны Савет прызнаў работнікам рэдакцыі **Ганаровыя граматы і Граматы.**

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ТРОЛЕН В

Прадпрыемства штучнага валакна «Эляна» ў Торуні апрацавала новы гатунак валакна, названага тролен В. Прадукцыя апрацавана на падставе ўласных доследаў і тэхнічных рашэнняў. Тролен В знойдзе прымяненне пры вырабе карабельных лінак, супрацьпажарных вужоў, шавецкай дратвы і гд. Якасці новага валакна значна вышэйшыя ад матэрыялаў, якія дагэтуль выкарыстоўваліся ў гэтых самых мэтах.

### ФІЛЬМЫ

У 1967 годзе Студыя дакументальных фільмаў перакрочыла свой план на 11 кінафільмаў. Згодна з планам павінна было выпрадукавацца 42 кінафільмы, а выпрадукавалася 53, у тым ліку два кінафільмы поўнаметражныя. Тэматыка кінафільмаў вельмі разнастайная, пераважалі аднак кінафільмы грамадска-сацыяльнага і культурна-асветнага зместу

### МЯСА

Падлічана, што ў студзені, у выніку рэгуляцыі цэн на мяса і мясныя вырабы, выразна зменшылася запатрабаванне на даражэйшыя гатункі мяса, пабольшылася тым часам — на таннейшыя. Продаж свінога мяса зменшыўся да 85 працэнтаў, пабольшыўся продаж ялавічыны (140 прац.). Нягледзячы на ўзрастаючае запатрабаванне на танныя гатункі мяса, і далей у халадзільнях залежваецца вялікая колькасць каніны, якой прадаецца вельмі мала. Прапануецца ў большых гарадах адкрыць больш крамаў, у якіх прадавацца будзе каніна.

### СТАТЫСТЫКА

На пачатку гэтага года Польшча налічвала 32 065 000 жыхараў, з чаго 13 830 000, гэта значыць, 43 працэнты, нарадзілася ўжо пасля вайны. На 1 квадратны кіламетр выпадала 103 асобы. Узрос лік разводаў. Дэмографы прадбачваюць, што ў гэтым годзе павысіцца натуральны прырост, а таксама колькасць разводаў, шлюбаў, што звязана з дэмаграфічнай структурай нашага грамадства.

### ШАФЁРЫ

Ліквідавана ўжо 1 тысяча штатаў шафёраў службовых аўтамашын. У выпадку затрымання пры сабе аўтамашыны, пры адначасовым звальненні з працы шафёра, працаўнік дзяржаўнай установы, які мае права карыстацца службовай аўтамашынай, атрымлівае спецыяльны грашовы дадатак. Адначасова аблегчана прыватная пакупка аўтамашын тым асобам, службовыя абавязкі якіх патрабуюць выездаў у аддаленыя мясцовасці.

### МАТАЦЫКЛЫ

З прычыны малога запатрабавання ў продажы, зменшана на 18—19 працэнтаў прадукцыя матацыклаў, веласіпедаў і мотавеласіпедаў. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### МЕЛІЯРАЦЫЯ

У чацвер, 15 лютага г. г., адбылося ў Беластоку супольнае пленарнае пасяджэнне Ваяводскіх камітэтаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Аб'яднанага людовага стронніцтва. Пленум быў прысвечаны праблемам эфектыўнасці меліярацыі лугоў на Беласточчыне. У ім прынялі ўдзел: намеснік члена Палітбюро ЦК ПАРП, міністр сельскай гаспадаркі Мечыслаў Ягельскі, старшыня Цэнтральнага праўлення воднай гаспадаркі Януш Грахульскі і кіраўнік эканамічна-сельскагаспадарчага аддзела Галоўнага праўлення ЗСЛь Баляслаў Назімэк. Пленумам на змену кіравалі I сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч і старшыня ВК ЗСЛь Я. Рызнар.

Меліярацыя лугоў мае асноўнае значэнне для сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства. Зялёныя сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць тут плошчу звыш 450 тысяч гектараў. Гэта складае больш за 30 працэнтаў агульнай плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў.

Беластоцкае ваяводства зусім не мае зямлі I класа, II класа — толькі 15 гектараў, III — ледзь 6 прац., асноўнае, што маюць у сваім распараджэнні сяляне Беласточчыны — гэта зямля IV, V і VI класаў. На такой зямлі ніхто не можа спадзявацца цудоўных ураджаяў збожжа, яна — апрача поўнага мінеральнага — патрабуе пастаяннага натуральнага ўгнаення. Значыць, пры нашых мясцовых умовах неабходна гадаваць шмат усялякай жывёлы. І гэта асноўны напрамак перспектыўнага гаспадарчага развіцця сельскай гаспадаркі ў Беластоцкім ваяводстве. Таму трэба стварыць базу для жывёлагадоўлі, забяспечыць яе высакаякасным кормам і добрай пашай.

Дзяржава не шкадуе нам грошай на меліярацыю. Дагэтуль у Беластоцкім ваяводстве было выкарыстана амаль 2 мільярды злотых — найбольш у апошнія гады. Гэтыя капіталаўкладанні высока рэнтабельныя. Яны поўнасцю аплочваюцца ўжо за 3—6 год. І не толькі таму, што частку коштаў за меліярацыю абавязаны вяртаць сяляне, але таму, што меліярацыя лугоў стварае для сялян асноўныя іх крыніцы даходу з продажу малака, кантрактацыі цялят, з продажу свіней.

Таму на пленуме асаблівая ўвага звярталася на камплектную развязку ўсіх гаспадарчых праблем у тых раёнах, дзе ўжо праведзена меліярацыя і дзе яна яшчэ плануецца. Справа ў тым, каб гаспадары мелі дзе гадаваць кароў і іншую жывёлу, каб маглі без клопату прадаць кожную колькасць малака. Значыць, трэба абяспечыць іх будаўляным матэрыялам і крэдытамі на пабудову абор, хлявоў, свірнаў, сіласаў і т. п., трэба будаваць злеўні малака і малачарні.

Пры нашай раздробленай гаспадарцы эфектыўнае выкарыстанне змеліяраваных лугоў магчыма толькі тады, калі гаспадаром іх будзе грамадска-гаспадарчая арганізацыя — водныя суполкі сялян. Аб іх заданнях шмат гаварылася і ў дакладах і ў дыскусіі.




**NIEDZIELA, 25.II.**

8.30 Program dnia. 8.35 TV Kurs Rolniczy: ,,Efektywność nawozów fosforowych i potasowych''. 9.10 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.20 ,,Hasło bez odzewu'' — film fab. bułg. 10.45 PKF. 10.55 ,,W starym kinie''. 11.55 Dziennik. 12.05 ,,Koncert Wawelski''. 12.50 ,,Żołnierze ojczyzny'' — film dok. radz. (odc. II — lata 1941—43). 13.50 ,,Przemiany''. 14.20 Teatr Młodego Widza: E. Szuster — ,,Zamorski gość''. 15.20 ,,Uniwersytet — Politechnika'' — teleturniej. 16.20 ,Brodacze'' (,,Ludzie i zdarzenia''). 16.35 Estrada Literacka: W. Tendriakow — ,,Spóźniony list''. 17.10 ,,Plebiscyt Archimedesa''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Berlin). 21.00 ,,Beata'' — film fab. pol. 22.30 ,,Niedziela Sportowa''.

**PONIEDZIAŁEK, 26.II.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.50 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Kino ,,Ptyś''. 17.15 Dla młodych widzów: ,,Uwaga — niebezpieczeństwo'' — reportaż o GOPRze. 17.35 Magazyn Postępu Technicznego. 18.05 ,,Spacerkiem po kinach''. 18.35 ,,Spotkanie nad Szprewą'' — film Tele-Aru. 18.50 ,,Azymut''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,Kultura polska zagranicą''. 20.35 Teatr TV: ,,Łagodna'' — dramat F. Dostojewskiego. 22.05 ,,Marsz na Bonn'' — program dokumentalny. 22.30 Dziennik.

**WTOREK, 27.II.**

9.10 ,,Zatańczmy'' — film fab. USA. 11.00 Dla szkół: (kl. IV) ,,W hucie ,Hortensja''. 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — L. Kruczkowski ,,Niemcy''. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: ,,Mechanizacja ochrony roślin''. 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 23.10 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Szymon i Kubuś''. 17.20 Dla młodych widzów: ,,Jak dawniej pisano listy'' (,,Klub pod Smokiem''). 17.50 ,,Nie tylko dla pań''. 18.10 ,,Blisko lasu'' — film dok. pol. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.40 ,,Ludzie z kryształu'' — reportaż z huty ,,Julia'' w Szklarskiej Porębie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Giełda piosenki''. 20.35 ,,Dodatek do stypendium'' — program studencki. 21.05 ,,Zatańczmy'' — film fab. USA. 22.50 Dziennik.

**SRODA, 28.II.**

10.00 ,,Pociąg na tyły'' — film fab. radz. 11.15 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — ,,Wapienie''. 13.10 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.55 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: Teatrzyk Kieszonkowy — M. Bielicki — ,,Chciwiec Dziambo''. 17.20 ,,Opowieść o pingwinach'' — film radz. 17.40 ,,Telekram''. 17.50 ,,Za kierownicą''. 18.20 ,,Słynne orkiestry — słynni dyrygenci''. 19.00 ,,Dobranoc''. 19.10 Dziennik. 19.40 Sprawozdanie sportowe. W przerwie ok. 20.30 PKF. 21.30 ,,Swiatowid''. 22.00 ,,Studio 63'' — ,Listy Mariany Alcoforado''. 22.35 Dziennik.

**CZWARTEK, 29.II.**

11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — ,,Bolesław Prus''. 12.45 Dla szkół: (kl. X) Język polski — ,,Mickiewicz — Słowacki — Krasiński''. 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.50 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem'' — wyd. specjalne. 18.05 Film krótkometrażowy. 18.20 ,,Orfeusz i Eurydyka'' (,,Wielkie miłości'') — program muzyczno-poetycki. 18.50 ,,Dziewczęta spod znaku krosna'' (,,7 milionów młodych''). 19.05 ,,Gawędy o współczesności''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Dobry wieczór, jak minął dzień''. 20.40 Mistrzostwa Świata w jeździe figurowej na łyżwach — tańce na lodzie. (Genewa). 22.00 Program publ. 22.30 Dziennik.

**PIĄTEK, 1.III.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — ,,Szyjemy pokrowce''. 10.25 ,,Drewniany różaniec'' — film fab. pol. 11.45 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 21.55 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.15 Dla dzieci: ,,Czyje te ślady?'' 17.45 ,,Kiedy trzeba podjąć decyzję''. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 ,Karykatury Eryka Lipińskiego''. 18.45 Wszechnica TV: ,,Przed milionami lat'' cz. III (,,Wszechświat, w którym żyjemy''). 19.15 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Drewniany różaniec'' — film fab. pol. 21.25 ,,10 minut recenzji''. 21.35 Dziennik.

**SOBOTA, 2.III.**

9.40 ,,Pomszczony'' — film fab. wł. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — ,,Zdrowa — ładna''. 11.25 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 TV Kurs Rolniczy: ,,Intensywne nawożenie łąk i pastwisk''. 16.05 ,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''. 16.15 Program tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.40 ,,Targi w Casablance'' — rep. film. marok. 16.55 Centralna Akademia z okazji Dnia Olimpijczyka. 18.00 ,,Żołnierz Ojczyzny'' — film dok. radz. cz. III (,,Rok 1944''). 19.00 ,,Wieczorne rozmowy''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,La Fontaine wiecznie żywy'' — film. 20.40 ,,Z wizytą u Was'' — program rozrywkowy z Ursusa. 21.55 Dziennik. 22.10 Wiadomości sportowe. 22.20 ,,Pomszczony'' — film fab. wł.




**Piątek, 23 lutego**

8.50 ,,Dzieciństwo''. Film. 10.30 ,,Na straży Ojczyzny''. 11.15 ,,Radar''. 13.25 Nowiny. 13.40 J. ang. dla przedszkolaków. 14.05 ,,Bohaterstwo''. 15.05 ,,Amarantowe naramienniki''. 15.45 Film animowany dla dzieci. 16.00 Muzyczno - literacka kompozycja. 16.45 ,,Wierni synowie''. Film dok. 19.45 Sztafeta nowin. 20.30 Koncert dla żołnierzy. 21.20 Tylko fakty.

**Sobota, 24 lutego**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dla studentów. 9.35 J. ang. dla przedszkolaków. 10.00 ,,Mikołka-parowóz''. Film. 11.30 ,,Dzień jutrzejszy naszej republiki''. 12.00 TV barwna. 13.30 TV teatr dla dzieci. 14.45 Dziennik. 15.00 Almanach TV. 16.00 Klub Filmowy. 17.00 Film fabularny. 18.30 ,,Czas''. 19.00 Program rozrywkowy z Kijowa. 19.30 ,,Płomyk''. 21.15 Mistrzostwa świata w jeździe szybkiej na lodzie.

**Niedziela, 25 lutego**

7.45 Dziennik. 8.00 Kalendarz TV. 8.30 Reportaż z Centralnego muzeum sił zbrojnych ZSRR. 9.00 Olimpiada matematyczna. 10.00 ,,Echo''. 10.40 ,,Białe i czarne''. 11.10 ,,Szkatułka muzyczna''. 11.30 ,,Dla was, kobiety''. 12.00 TV barwna. 13.30 ,,Droga człowieka do gwiazd''. 14.00 ,,Kawaler orderu Jerzego''. Film. TV. 14.30 Kiosk muzyczny. 15.00 Podróże TV. 16.00 Almanach muzyczny. 17.00 Ludowe pieśni i tańce Bułgarii. 17.20 ,,Siedem dni''. 18.00 ,,Dziennik frontowy''. 19.15 Mistrzostwa świata w jeździe szybkiej na lodzie. 20.00 Program rozrywkowy z Berlina.

 

# „КАТАКІ"

Пасля даўжэйшага перапынку зноў пачала працу камеральная сцэна **драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі ў Беластоку**. Сезон на малой сцэне адкрыта п'есай амерыканскага драматурга **Сімона Вінцэльберга — «Катакі»,** якую рэжысіраваў **Збігнеў Бесерт,** пастаноўка — **Тэрэсы Панінскай.** «Катакі» — гэта японскае слова і па-беларуску абазначае яно — вораг.

Тэматыка п'есы надта актуальная, цікава паказана аўтарам, прыцягваючая да роздумаў, дыскусіі. Па колькі гэта заслуга аўтара, даўжэй распісвацца нечага. Больш істотнай з'яўляецца ігра акцёраў. Істотнай таму, што праз увесь час спектакля выступае толькі двух герояў: амерыканскі лётчык **Альвін** (Генрык Длужынскі) і японскі салдат — **Кімура** (Тадэуш Запаснік). Прычым, толькі адзін з іх фактычна гаворыць. І ў гэтым месцы хацелася б павіншаваць усіх, хто рыхтаваў гэты спектакль, а перад усім акцёрам **Г. Длужынскаму і Т. Запасніку,** за сапраўднае майстэрства і ўклад працы. Асабліва кідаецца гледачу асоба Кімуры, у якога іменна адчуваецца ўстрыманасць характэрная японцам. Т. Запаснік вельмі добра адлюстроўвае асобу японца, як чалавека, які не гаворыць свайму размоўцы непасрэдна таго, што думае. Зрэшты, гэтая размова — перад усім міміка, таму што адзін другога не разумее мовы. Аб ролі Альвіна можна менш пісаць, таму што яна на сцэне паказана поўнасцю, а псіхіка такога тыпу чалавека наогул вядомая нам, еўрапейцам. Аднак трэба сказаць, што Г. Длужынскі праявіў сябе ў ёй дасканала, вельмі натуральна.

П'еса не толькі на часе з прычын напружанай, а ў некаторых раёнах ваеннай сітуацыі, але і з чыста людскіх гуманных прычын. У Альвіна мы знойдзем шмат эпізодаў, якія нас рассмешаць, зробяцца амаль нашымі ўласнымі. Зрэшты, п'еса надаецца да вельмі бурных дыскусій, як з боку ідэйна-выхаваўчага, так і мастацкага. Усё ж тут толькі двух акцёраў, якія павінны праз увесь час забаўляць гледача.



**На здымку: (злева) Тадэуш Запаснік (Кімура) і Генрык Длужынскі (Альвін).**

**Фота: Ст. Дудкевіч**

**А. К.**

ВУЧНЯМ АПОШНІХ КЛАСАЎ СЯРЭДНІХ ШКОЛ

# На Кафедры беларускай філалогіі

У гэтым годзе Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта будзе прымаць кандыдатаў на першы год навучання. З прычын зусім аб'ектыўных тут набор праводзіцца кожны другі год. Для інфармацыі падаем, што на беларускую філалогію абавязваюць такія ж дакументы і час іх складання, як на ўсе іншыя кірункі Варшаўскага універсітэта. Закваліфікаваны кандыдат павінен складаць экзамены: **пісьмовы** з беларускай мовы, **вусны** з беларускай літаратуры з элементамі граматыкі і польскай літаратуры з элементамі граматыкі. Кандыдаты, якія не ведаюць бел. мовы, здаюць экзамены з рускай мовы. Варта дадаць, што апрача беларускай ёсць тут і руская спецыялізацыя, што дае магчымасць працаваць, напрыклад, настаўнікам рускай мовы ў школе.

Студэнты беларускай філалогіі маюць наступныя чыста беларускага характару прадметы: апісальная граматыка беларускай мовы на I і II годзе, гісторыя беларускай літаратуры на працягу трох год, гістарычная граматыка на III годзе, гісторыя беларускай літаратурнай мовы на IV годзе і практычная навука беларускай мовы праз усе пяць год. Іншыя прадметы і заняткі выступаюць падобна як на іншых філалагічных аддзяленнях.

Заданне Кафедры беларускай філалогіі — падрыхтоўка кадры навуковых работнікаў. Зразумела, не ўсе выпускнікі Кафедры з'яўляюцца навуковымі работнікамі. Большасць з іх ідзе працаваць настаўнікамі і ў іншыя не настаўніцкія ўстановы. Аднак некаторыя астаюцца працаваць на Кафедры або ў беларускай «працоўні» Польскай Акадэміі навук. Неабходна сказаць, што працэс выбару на навуковага работніка вельмі доўгі і пачынаецца ён ад моманту, калі студэнт пачынае навуку. Работнікі Кафедры на чале з **прафесар А. Яблонскай** сочаць уважна пільнасць і здольнасці кожнага са студэнтаў. Каб не быць галаслоўнымі, прывядзем прыклады: **мгр Анна Багроўская і мгр Мікалай Врублеўскі** выпускнікі Кафедры, а зараз яе навуковыя работнікі, **мгр Марыя Чурак** працуе навукова ў Акадэміі навук, а **мгр Скібінская** зараз з'яўляецца на доктарскай стыпендыі пры Кафедры. Пасля заканчэння навукі на Кафедры і атрымання дыплому можна ісці працаваць настаўнікам, у выдавецтвы, а хто любіць прафесію журналіста, можа ісці на падыпломнае журналісцкае студыум пры Варшаўскім універсітэце. Перад абсальвентамі Кафедры ёсць шмат і іншых магчымасцей.

Чым займаюцца студэнты ў часе навукі? Перад усім пасля III года студэнты выязджаюць на дыялекталагічную практыку. Практыкамі гэтага тыпу кіруе др **Э. Смулкова.** Адбываюцца яны амаль выключна на Беласточчыне. У гэтым годзе, напрыклад, студэнты пабывалі ў вёсцы Цэцэлі, якая знаходзіцца на беларуска-польскім паграніччы. У часе кожнай з гэтых практык студэнты знаёмяцца з сістэмай працы дыялектолага, вучацца, як «выцягнуць» ад інфарматара тое, што патрэбнае, а не тое, аб чым хоча гаварыць інфарматар. Адным з распаўсюджаных метадаў працы на Кафедры з'яўляецца пісанне дакладаў. Вядучыя заняткі, каб лепш пазнаёміць студэнтаў з праблематыкай аднаго прадмета, вызначаюць тэмы, а студэнты іх апрацоўваюць. Напрыклад, зараз адзін са студэнтаў працуе над граматыкай Тарашкевіча, параўноўваючы яе да сучаснай. Такія формы з'яўляюцца першымі спробамі самастойнай працы, вучаць на аснове тэарэтычных прац рабіць адпаведныя вывады, а адначасова рыхтуюць да магістэрскіх прац.

Зацікаўленым неабходна падаць, што Кафедра беларускай філалогіі зусім звольнена з фундаваных стыпендый. Як вядома, кожнае аддзяленне атрымлівае ліміт фундаваных стыпендый, якія студэнты вымушаны ўзяць, а што звязвае студэнта з працай у данай мясцовасці. Штопраўда, Прэзідыум ВРН у Беластоку высылаў на Кафедру такія стыпендыі, але нічога не запэўніў: ні месца працы, ні памяшкання. Зразумела, гэта абсалютна не абазначае, што калі студэнт захоча мець фундаваную стыпендыю, дык яе не атрымае. Фундаваную стыпендыю можа атрымаць кожны студэнт Кафедры, калі толькі сам захоча.

Не пісалі мы аб справах студэнтаў па-за навукай. Працуюць яны ў рознага тыпу клубах, студэнцкіх камісіях, арганізацыях. Супрацуюць з Варшаўскім аддзелам БГКТ. Толькі адно дзіўнае, што супрацоўніцтва з'яўляецца найактыўнейшым у першым годзе навукі, у другім слабейшае, а ў трэцім сувязі зусім парываюцца. А вельмі шкада. Тут не месца разглядаць гэтай справы, але ў гэтым напрамку могуць многа сказаць і кіраўніцтва Варшаўскага аддзела БГКТ, і самі студэнты.

**А. Карпюк**

# ЛЕНІНГРАД У БЕЛАСТОКУ

Беластоцкі мастак Тадэуш Болаз праставіў гледачу цікавую, новую сваю выстаўку. Гэта серыя 34 каляровых рысункаў на шэрым полі. Рысункі паказваюць Ленінград, дзе аўтар пабываў і захапіўся (як кожны, хто там бывае) незабыўным хараством Ленінграда — гэтай «Венецыі Поўначы».

Выстаўка ў цэлым робіць надзвычай сімпатычнае ўражанне. Забытковыя залы Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку ідэальна да гэтай экспазіцыі пасуюць. (вл)

# Куды за граніцу адпачываць

З «Орбісам» можна выбрацца адпачываць за граніцу. Падаем краіны:

1. **Балгарыя,** на 18 дзён, кошт 4500 — 5650 зл.
2. **Румынія,** на 16 або 21 дзень — 3800 — 4400 зл. і 5700—6100 зл.
3. **Чэхаславакія,** на некалькі тыдняў або на некалькі дзён, ад 1650 да 2120 зл.
4. **Югаславія,** на два тыдні — 6000-- 8500 зл.
5. **Германская Дэмакратычная Рэспубліка** — экскурсіі ад 4-охдзённых да 10-цідзённых — 1600—2900 зл.
6. **Венгрыя,** на тыдзень або два, 1900 — 4000 зл.
7. **СССР** — на 8, 10 або 13 дзён, самымі цікавымі шляхамі, ад 3200 — 4600 зл.

«Орбіс» арганізуе 5-цідзённыя экскурсіі «Тры сталіцы» па шляху Берлін—Прага—Будапешт у цане 2800 зл.

Больш дакладныя інфармацыі можна атрымаць у «Орбісе». (вл)

# УЛАДЗІМІР АМЕЛЬЯНЮК

Уладзіміра Амельянюка засталі мы ў хаце, калі сядзеў над паперамі сельскагаспадарчага гуртка, якога ён з'яўляецца бухгалтарам.

— Работы хапае, — гаворыць Уладзімір Амельянюк. — У нас усё падлікі: колькі араў трактар, колькі трэба атрымаць за гэта грошай, колькі малацілў агрэгат, колькі выдаткаў, а колькі даходу маем у гуртку. Неяк усё не хапае часу.

Яму няпоўных яшчэ 24 гады.

Жыве ён зараз са старымі бацькамі на гаспадарцы, якая даволі вялікая, бо налічвае аж 14 га. Значыць работы па самыя вушы.

Закончыўшы пачатковую школу Уладзімір пачаў хадзіць на заняткі ў школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Вучыўся добра. На ўласнай гаспадарцы праводзіў доследы. Пачаў адчуваць, што мае замала ведаў. І Уладзімір пачаў рыхтавацца да экзаменаў завочнага сельскагаспадарчага тэхнікума ў Беластоку. Прынялі яго, і цяпер ён вучыцца. Але ўсё гэта не так лёгка прыходзіцца. Сямейныя справы тут адыгрываюць агромную ролю. У Уладзіміра Амельянюка падрасталі сёстры. Трэба было іх павыдаваць замуж — гэта значыць справіць добрае вяселле, ды па традыцыі і пасагу крыху даць. А што гэта значыць рыхтаваць вяселле? Гэта значыць цяжэй працаваць, больш мець выдаткаў. Але нічога не зробіш — гэта ўсё патрэбнае. Так ужо ёсць з дочкамі. Выхоўваюць бацькі, выхоўваюць, а калі ўжо яны становяцца паўнацэннымі работнікамі на гаспадарцы, калі ўжо лягчэй апрацоўваць з імі гаспадарку, тады трэба ўжо выдаваць іх замуж.

І Уладзімір Амельянюк, так як гэта было ўжо вышэй сказана, гаспадарыць ужо некалькі год са сваімі старымі бацькамі і вучыцца ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Вучыцца настойліва, вучыцца коштам многіх кавалерскіх прыемнасцей, бо ведае, каб не адставаць, трэба ведаць, дзе што сеяць, колькі і якіх даваць угнаенняў, трэба ведаць, ад чаго залежыць найбольш, каб мець ад жывёлагадоўлі найлепшыя карысці. Адным з фактараў належнага развіцця жывёлагадоўлі з'яўляюцца добрыя памяшканні для жывёлы. І пры дапамозе старых бацькоў Уладзімір пабудаваў з пустакоў сучасныя прасторныя хлявы з вокнамі, пасярэдзіне якіх уздоўж праходзіць калідор, па якім можна ехаць возам - балонам Зараз у гэтых хлявах поўна жывёлы Свінні, авечкі, дзве дойныя каровы і ялоўка, двое коней і жаробка на продаж. Вельмі ж аплочваецца тадоўля жарабят. А як з каровамі? Раней было ў яго па 5 штук. Але гэта замала, а да гэтага няма добрага корму. Лепш мець іх менш, але добрых — малочных, рацыянальна кормленых. Даюць гэтыя дзве каровы да 30 літраў 4% малака.

Уладзімір Амельянюк становіцца гаспадаром новага часу. Гэта бачаць людзі. Вось магчыма таму выбралі яны яго на свайго раднага ў ГРН у Новым Беразове. А прэзідыум ГРН такіх людзей патрабуе. Апрача абавязкаў раднага прэзідыум упаўнаважыла яго да падпісання пратаколаў страт звязаных з пасухай, градабіццём, марозам і т.д. Датычыць гэта перш за ўсё кантрактаваных культур. А калі разыходзіцца аб кантрактацыю, дык Уладзімір Амельянюк найбольш кантрактуе рапаку і кожны год мае з яго даходу па 15 тысяч злотых.

Салідныя, адукаваныя людзі ўсюды патрэбны. ГС у Гайнаўцы таксама палічыў, што Уладзімір Амельянюк можа быць добрым грамадскім кантралёрам. А хто сярод моладзі можа быць найлепшым старшынёй Саюза сялянскай моладзі? Вядома, што толькі той, хто карыстаецца найбольшым аўтарытэтам, а гэта значыць, што асоба Уладзіміра Амельянюка найбольш падыходзячая. А Уладзімір любіць грамадскую працу і працуе многа. Вось менавіта таму ў Уладзіміра заўсёды мала часу, заўсёды не хапае яго для свайго прыватнага жыцця.

**Міхась Хмялеўскі**

Сядайце, едзем!

# НА ДЗЕНЬ ЖАНЧЫН У ЛОДЗЬ

Сваё свята сотні беластоцкіх жанчын правядуць у Лодзі на розных культурных мерапрыемствах. Экскурсія арганізуецца ў рамах акцыі «Сядайце едзем», якая вядзецца беластоцкімі рэдакцыямі з «Грамадай». У арганізацыі выезду аўтобусамі ў Лодзь на 2, 3 і 4. III. удзельнічае Ваяводскае праўленне ЗМВ у Беластоку.

У Лодзі жанчыны будуць у аперэце на «Нядзелі ў Рыме» Г. Крамера, на «Князі Ігары» Барадзіна ў Лодзінскім Вялікім тэатры (дарэчы, лодзінская пастаноўка «Князя Ігара» лепшая ў сусветным маштабе). Наведаюць удзельніцы экскурсіі Ловіч і музей Шапэна ў Жэлязовай Волі, спаткаюцца з жанчынамі Лодзі і па дарозе наведаюць Варшаву. (вл)



 

# „ГВАРДЫЯ“ ЎПАРТАЯ

Дваццаць год існуе і дзейнічае спартыўны клуб **«Гвардыя»** ў Беластоку. Заслугі «Гвардыі» ў развіцці беластоцкага спорту бясспрэчныя. Перш за ўсё неабходна сцвердзіць, што «Гвардыя» з'яўляецца адной з першых спартыўных арганізацый на Беласточчыне пасля вайны. Таму цалкам натуральнае тое, што ў пасляваенныя гады блішчэла яна зоркай першай велічыні. Але прамяністая зорка «Гвардыі» блішчыць яркім і нязгасным святлом. «Гвардзейская» баксёрская каманда сеньёраў ужо ад трох гадоў упэўнена трымаецца ў II-ой лізе. Спартсмены-баксёры заваявалі адзін віцэ-чэмпіянат Польшчы і два трэція месцы, што трэба лічыць не абы-якім дасягненнем, калі дадаць яшчэ аж дзевяць віцэ-чэмпіянатаў юньёраў. Падобныя прыклады дасягненняў можна тут пералічваць больш. От, хаця б тое, што каманда валейболу з'яўлялася найлепшай у ваяводстве. Пішам — з'яўлялася найлепшай, бо гэта ўжо гісторыя. Амаль тое самае «сталася» і з футбольнай камандай. Вядома, у спорце іначай не бывае: адны дасягненні замяняюць іншыя дасягненні. Часамі лепшыя і багацейшыя, часамі скромныя.

Усё гэта было б нармальным, калі б не той істотны факт, што прычынаю ўсялякіх «упадкаў» з'яўляюцца надзвычай цяжкія памяшкальныя ўмовы дзейнасці «Гвардыі».

«Гвардыя» фактычна знаходзіцца ў сірочай сітуацыі. Аднак, гаворачы аб сіроцтве «Гвардыі», дакрануліся мы да надта важнай праблемы, капітальнай праблемы! Будаўніцтва спорт-аб'ектаў, званых у чыноўніцкім дыялекце спартыўнымі інвестыцыямі. Недахоп належных памяшканняў для трэніровак ставіць пад вялізным знакам запытання многія карысныя ініцыятывы, рэалізацыя якіх апіраецца ўвесь час толькі на фанатызме нешматлікай жменькі актыву. Халатныя адносіны ўладаў да праяў ахвярнасці актыву, а перш за ўсё, да найлепшых спартсменаў мае той вынік, што з Беластока і Беласточчыны пастаянна выязджаюць «у Польшчу» ўсе лепшыя сілы. «Купляе» іх Слёнск, «купляе» іх Варшава. Беласточчына — капальня здаравенных людзей і «нічыя зямля». Аб бюракратызме ВККФіТ-ту кружаць ужо легенды сярод патрыятычных (усё такі) беластачан.

Клуб «Гвардыя» робіць стаўку на беластоцкі патрыятызм. Мае амбіцыю дабівацца спартыўных дасягненняў **выключна ўласнымі сіламі.** Спрабавана шырокай акцыі папулярызацыі спорту, напр. слынныя ўжо матчы «дзікіх футбалістаў». Талентаў у народзе аказалася многа, трэ' адно заўважыць і заняцца фармаваннем іх. Такая праўда.

Разам з тым запланавана канкрэтныя працы па будаўніцтву новых спорт-аб'ектаў, без якіх няма чаго гаварыць усур'ёз аб спорце, аб развіцці спорту. У 1966 годзе пачата будову стадыёна на Новым Месце ў Беластоку. Будзе ён збудаваны каля 1970 года. А ў гэтым годзе беластоцкае кіно МО будзе перабудаванае для спартыўных патрэб «Гвардыі» — ды не толькі «Гвардыі». Між іншым, можна будзе пабачыць тут спартыўныя мастацкія фільмы і інструктажныя. Асабліва інструктажныя фільмы моцна патрэбны.

Столькі агульнага і патрэбнага можна сказаць аб гэтай цікавай спартыўнай з'яве, якой несумненна лічыцца клуб «Гвардыя». На заканчэнне некалькі лікаў і дадзеных аб «Гвардыі». У сучасны момант у гэтым клубе дзейнічае шэсць спорт-секцый, якія налічваюць 1 704 члены, а ў іх ліку — 329 спартсменаў. Найбольш заслужанымі за 20 год з'яўляюцца наступныя: футбалісты Юзэф Харашуха — «Злота Нужка», Славамір Бранавіцкі, Міраслаў Байер, Станіслаў Байер, Ян Амбражэвіч; з каманды валейболу асабліва вылучаецца Тадэуш Пачуско, Марак Палчынскі, Ежы Цачуско; сярод баксёраў вядомымі з'яўляюцца — Станіслаў Паўляк, Вяслаў Звітак, Уладзіслаў Федарчук, Багдан Касцючык; велагоншчыкі — Аляксей Галко, Вальдэмар Фішэр; джудысты — Ніл Дуброўскі, Васіль Іванюк, Уладзімір Амільянюк. Многія спартсмены пабывалі не раз заграніцай.

Дасягненні не былі б магчымымі без ахвярнасці такіх трэнераў, як: Тадэуш Васько, Раман Язерскі, Юльян Кісялеўскі, Рыгор Капчынскі, Эрвін Луцкі.

«Гвардыя» займаецца папулярызацыяй спорту шляхам арганізоўвання гурткоў папулярызацыі фізкультуры. Найбольшыя гурткі існуюць у Бельску (70 членаў) і ў Гайнаўцы (каля 60 членаў). Нядрэнны гуртох і ў Саколцы. Цікава зазначыць, што ў іншых паветах такія гурткі або праяўляюць даволі слабую дзейнасць, або не існуюць зусім. Нягледзячы на іргундовае трактаванне ўладамі спраў спорту «Гвардыя» не траціць надзеі. «Гвардыя» ўпартая!

**С. Я.**



**На здымку: футбольная каманда «Гвардыі» — Беласток, якая ў 1949—1950 гадах здабыла першыя на Беласточчыне чэмпіёнскія званні.**

**(Працяг са стар. 1)**

Мясцовыя міліцыянеры маюць палкі, але не маюць часу сядзець ля святліцы ды пільнаваць арлянскую моладзь. Вечарамі выязджаюць яны пераважна ў суседнія вёскі.

Аб міліцыйных палках улады гавораць от так, напаўжартам, паміж сабою. А ўсур'ёз, на ўсялякія інтэрвенцыі адказваюць сур'ёзна:

— Няма на конце грошай, увесь фонд на культурна-асветную дзейнасць выкарыстаны.

# Адзін у полі не ваяка

Вядома, улады заўсёды маюць рацыю абапіраючыся на параграфах і распараджэннях. Але вядома і тое, што не гледзячы на параграфы і распараджэнні многа добрага можна зрабіць, калі ёсць крыху энтузіязму, ці хаця б звычайнай да гэтага ахвоты. Пакуль што ў Орлі ніхто не праяўляе энтузіязму ў тым, каб жыццё асады было крыху цікавейшым: ні мясцовыя ўлады, ні — трэба аб тым сказаць шчыра — мясцовая моладзь. І таму, ахвярныя намаганні выхавацельніцы дзіцячага сада і некалькіх настаўнікаў мясцовай школы на чале з яе кіраўніком Аляксеем Карпюком, каб ажывіць жыццё асады — астаюцца бязвынікавымі. Бо — як кажа старая пагаворка — адзін у полі не ваяка.

**Уладзімір Паўлючук**

# У ПРУСІІ

**(Працяг са стар. 1)**

цярожна мацаю пальцамі. Кроў. Тады ўпершыню даведаўся, як страшэнна моцна б'е куля. Найперш чалавек адчувае толькі ўдар, больш нічога. Рана аказалася на шчасце невялікая. Крыху толькі парвала мяса. Таварышы зрабілі мне перавязку і зноў прышлося перабірацца праз гэтую рэчку па грудзі ў ледзяной вадзе.

Пасля лячэння Уладзімір Гадоньчук папаў у гвардыйскую дывізію танкавых дэсантнікаў. Расказвае ён:

— Было гэта месяц пазней — 14 красавіка 1945 года. 12 нашых танкаў «КВ-34» прарвалася ў тыл ворага. Чыгуначным палатном сярод узгоркаў праімчаліся мы нейкіх 5 кіламетраў. На кожным танку па 12 дэсантнікаў і па 5 чалавек танкавага экіпажа. У нейкім маёнтку наткнуліся на немцаў. Завязаўся кароткі бой. Мы адкрылі так пякельны агонь, што немцам не было ніякага ратунку. Маёнтак знайшоўся ў нашых руках. Мы хутка зрабілі ў ім парадак і паімчаліся далей. Узялі боем суседні маёнтак і там камандванне рашыла крыху адпачыць. Прайшла ноч, але зранку немцы адкрылі па нас шквальны агонь з мінамётаў і гармат. Мы задалёка адарваліся ад сваіх, не маглі атрымаць папаўнення і трапілі ў акружэнне. Канчаліся ўжо нам боепрыпасы. З жахам глядзелі, як адзін за другім загараліся нашыя танкі. Цэлы іх дзесятак тады разбілі. Прарвалася толькі два: наш і яшчэ адзін. У час уцёкаў мяне параніла ў ногу. Лекары дасталі 12 асколкаў. Лячылі мяне аднак коратка. Яшчэ паспеў я паваяваць на самым прымор'і. Там загінуў наш зямляк — Міцька Барташук з вёскі Рагачы. Мы безупынна наступалі. Аднойчы ноччу выбілі немцаў з адных акопаў на ўзгорку і зараз занялі іх самі. Раніцай аказалася, што ад немцаў раздзяляе нас палоска ў нейкіх 20—30 метраў. Пачалі швыраць гранатамі — і мы, і яны. Ударыла па нямецкіх траншэях наша артылерыя. Дасталося, на жаль, тады і нам. Прасядзелі мы там дзень і ноч. Надосвітку рыхтаваліся ў атаку. Кулямётчыкі пачалі абстрэльваць варожую лінію. Міцька Барташук таксама быў кулямётчыкам. Аднак яго «максім» маўчаў. Барташук стаяў у акопе, рукамі трымаўся за ручкі кулямёта і нерухомымі вачыма глядзеў на немцаў. «Заснуў, шпана!» — вылаяўся наш камандзір і яшчэ раз паўтарыў каманду: «Агонь!» Барташук не варухнуўся. Камандзір падлез траншэяй да яго і хлопнуў рукою ў бок. Штыўнае цела Барташука, як калода, грымнула на дно траншэі, шапка злямела з галавы, і тады мы ўбачылі, што куля трапіла яго проста ў лоб.

Уладзімір Гадоньчук закончыў вайну на Вісленскай касе. Пакуль аднак вярнуўся ў родныя Малочкі, праехаў яшчэ ўсю Еўропу і Азію — ад Кенігсберга да Уладзівастока. Прышлося яму быць парашутыстам і скакаць на парашуце.

Зараз ён з'яўляецца намеснікам старшыні Прэзідыума ПРН у Бельску.

**В. Рудчык**




## НА РАДЗІМЕ ФЕЛІКСА ДЗЯРЖЫНСКАГА

Ад станцыі Стаўбцы дарога то збягае ўніз, то раптам — на ўзгорак або выпростваецца і цятнецца, быццам струна. Але вось засталіся ззаду Стаўбцы, не відаць ужо Нёмана і навокал — густыя, дрымучыя, спрадвечныя лясы. Да лесу туляцца вёскі. Яшчэ здалёк відаць новыя калгасныя будынкі, сіласныя вежы і ветракі.

Гэта родныя месцы Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага.

Не раз ён ад'язджаў і прыязджаў на станцыю Стаўбцы. Гэта была бліжэйшая чыгуначная станцыя да Дзяржынава, дзе ў 1877 годзе ў сям'і настаўніка нарадзіўся Фелікс Эдмундавіч.

Вось Рубяжэвічы, у мінулым маленькае гандлёвае мястэчка, а цяпер буйны калгас і культурны цэнтр са школай, бібліятэкай, чытальняй. Адсюль недалёка да Рудні, а там яшчэ бліжэй да Дзяржынава, дзе яшчэ да вайны захоўваўся драўляны домік Дзяржынскіх.

Домік стаяў на водшыбе, як і кожны хутар. Здавалася, што жыццё праходзіць воддаль ад гэтага хутара. Але гэта толькі здавалася. Фелікс рана пасябраваў з кнігай. Калі ён падрос, з'явілася пытанне, дзе яму вучыцца. Бацькі адвезлі яго ў Вільнюс і аддалі ў школу. Феліксу не было тады і дзесяці год.

Але Дзяржынава, хоць Фелікс Эдмундавіч пражыў у ім толькі раннія гады, назаўсёды засталося ў яго памяці. У вёсках, якія размешчаны навокал Дзяржынава, жылі беларускія, польскія, рускія і літоўскія сяляне. Жылі яны ў даўняй дружбе, і гэтая дружба была зародкам таго палымянага інтэрнацыяналізма, непахісным прыхільнікам якога заўсёды быў Фелікс Эдмундавіч.

На летнія канікулы Фелікс Эдмундавіч вяртаўся ў Дзяржынава.

Гэта было святам не толькі для сям'і, але і для многіх сялян. Дзяржынскі быў жаданым госцем у доме бацькоў. Ён пісаў ім лісты і прашэнні, чытаў уголас цікавыя кнігі або расказваў, як жывуць людзі ў гарадах. І сам Фелікс любіў летнія месяцы, якія ён ахвотна праводзіў у родным кутку.

Трывожным і неспакойным было жыццё Дзяржынскага ў дарэвалюцыйныя гады. Месяц на волі — год у турме. Смелыя ўцёкі і зноў — падполле. Зноў арышт. І дзе б ён ні сядзеў — у Нолінску, Кангародску, у Варшаўскай цытадэлі, Сядлецкай турме, у Якуціі, Арлоўскім цэнтрале, Бутырскай турме — далёкая Беларусь, акружаны густымі лясамі Івянец, роднае Дзяржынава заўсёды помнілася яму.

У цудоўных пісьмах Дзяржынскага, пісьмах, якія і сёння хвалююць, на якіх выхоўваецца наша моладзь, — не раз упамінаецца любімы куток. Фелікс Эдмундавіч марыў бачыць яго ў росквіце. Ужо тады ён верыў, што прыдуць другія дні і на прынёманскія прасторы.

У першыя ж дні рэвалюцыі 1917 года імя Дзяржынскага — гордае, бясстрашнае імя, — загучала ўсенароднай славай. І беднякі з Рубяжэвічаў, чытаючы газеты, з задавальненнем гаварылі:

— Наш Фелікс жыцця свайго за праўду не шкадуе. Заўсёды аб нас, бедняках, памятае.

Сяляне часта пісалі Феліксу Эдмундавічу пісьмы, і ён адказваў ім. Строгі, справядлівы, цвёрды, сардэчны — такім ён запомніўся сваім землякам.

Калі пачалася вайна з фашысцкімі захопнікамі і працоўныя Івянецкага раёна ўступілі ў рады партызан, аб самых бясстрашных народных мсціўцах гаварылі, што яны змагаюцца, як дзяржынцы.

Атрады народных мсціўцаў насілі яго імя, і гэта палохала фашыстаў. Вораг прыходзіў у жах ад аднаго ўспаміну імя Дзяржынскага. У бяссільнай злосці фашысты спалілі домік на хутары Дзяржынава, дзе жыў Дзяржынскі, закатавалі роднага брата Фелікса Эдмундавіча — інжынера Казіміра Эдмундавіча, персанальнага пенсіянера.

Прайшлі гады.

Непазнавальна змяніліся месцы навокал Дзяржынава. Няма больш вузкіх палосак на палях. Даўно перасталі тут быць дзівам трактар, камбайн і складаныя малатарні. Юнакам і дзяўчатам не трэба ехаць у далёкія гарады, каб атрымаць сярэднюю адукацыю. Дзверы сярэдніх школ адкрыты для іх у Івянцы. Над многімі хатамі — радыёмачты, у хатах — электрычнае святло. Калгаснікі выпісваюць многа газет, часопісаў.

Са слаўнага імя Дзяржынскага пачынаецца ўрок у мясцовых школах першага верасня. Летам у Дзяржынава прыходзіць многа экскурсантаў, яны з любоўю аглядаюць тыя месцы, дзе нарадзіўся, правёў дзіцячыя гады жалезны рыцар рэвалюцыі Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі, жыццё якога Уладзімір Маякоўскі ставіў у прыклад кожнаму юнаку.

**Я. Садоўскі**

1. Як адносіўся Фелікс Дзяржынскі да простага народа і сваёй роднай зямлі?
2. Ахарактарызуйце Фелікса Эдмундавіча як палымянага рэвалюцыянера.
3 Адшукайце на карце БССР Дзяржынава і раскажыце аб зменах, якія адбыліся там у пасляваенны перыяд.

# „БЕЛАРУСЬ“ ПРА ВІКТАРА ШВЕДА

Орган Саюза пісьменнікаў БССР штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс «Беларусь» у сваім першым сёлеташнім нумары змясціў рэцэнзію вядомага беларускага паэта Міхася Калачынскага на зборнік вершаў Віктара Шведа «Жыццёвыя сцежкі», які выдала ГП БГКТ у канцы мінулага года.

Міхась Калачынскі, між іншым, піша: «Калі набываеш новую кнігу, у назве якой сустракаецца слова «жыццё», міжволі хочацца верыць, што яна навеяна ці падказана аўтару сваім жыццём (...), з такім адчуваннем я браў у рукі паэтычны зборнік Віктара Шведа «Жыццёвыя сцежкі», выпушчаны нядаўна ў Беластоку. Уважліва гартаў старонкі яго трох раздзелаў, імкнучыся прасачыць, што ў ім адметнае, добрае і што заганнае.

Мушу адразу ж зазначыць: у «Жыццёвых сцежках», як амаль у любой першай кніжцы паэта, адно і другое чаргуецца паміж сабою. Не ўсё ў вершах, як кажуць, «цюцелька ў цюцельку» з боку мовы, дасканальнасці формы, сродкаў паэтычнай выразнасці. Але вершы падкупаюць шчырасцю пачуццяў, непасрэднасцю мастацкага ўвасаблення з'яў, з якімі аўтар сустракаўся на нялёгкім жыццёвым шляху. (...)

Маладога паэта, як і ўсіх яго паплечнікаў — літаратараў сучаснай Беласточчыны, хвалюе зямля, «дзе ад бацькоў вучыўся роднай мовы» і «ніколі мовы гэтай не забываў». Народная ўлада, здабытая ў цяжкай барацьбе з ворагамі, перайначыла жыццё і лёс людзей працы. (...)

Аўтар услаўляе прыход аднаўлення, захапляецца яго навізной..

З твораў, прысвечаных гэтай тэме, найбольш удалым, на мой погляд, трэба лічыць верш «Бацькоўскі парог». Ён просты і лаканічны па форме, выразны па думцы. (...)

Пранікнёныя, напоўненыя дыханнем жыцця, строфы ёсць у вершах «Вёска», «Летні ранак», «Духмяны хлеб» і інш.

Зборнік «Жыццёвыя сцежкі» выйшаў з друку ў год паўвяковага юбілею Вялікага Кастрычніка. Не выпадкова ў ім адчуваецца імкненне паэта гаварыць пра рэвалюцыю, яе велічныя здзяйсненні, удзельнікаў тэраічных падзей, пра бессмяротнага У. І. Леніна...

На жаль, звонкім па гучанню вершам гэтага раздзела, як і іншых, не хапае мастацкай самастойнасці. Голас паэта часам забягае ў «чужое рэчышча», збіваецца на знаёмыя матывы.

Значнае месца ў зборніку В. Шведа займаюць творы пра дзетвару. Большасць з іх сведчыць пра назіральнасць аўтара, разуменне ім псіхалогіі і інтарэсаў дзяцей. (...)

Думаю, што В. Шведу варта і надалей «шукаць сябе» ў паэзіі для дзяцей. Трэба толькі мець на ўвазе, што так званы «дзіцячы жанр» не зусім лёгкі, як некаторым здаецца. Ён не церпіць ні празмернай складанасці, ні прымітывізму, ні дыдактыкі, чым там-сям грашыць аўтар «Жыццёвых сцежак».

У друку ўжо адзначалася: менш за ўсё ў В. Шведа ўдаліся сатырычныя вершы (як мы інфармавалі, раней рэцэнзію на зборнік В. Шведа змясціла «Літаратура і мастацтва» — рэд.). Гэта зусім правільна. І бяда, на маю думку, галоўным чынам у дробнатэм'і. Сатырычнае джала паэта накіравана толькі супраць дробязных бытавых з'яў. (...)

...В Шведа паклікала ў паэзію жыццё. І верыцца: на сцежках жыцця, якімі ён ідзе, яго чакаюць новыя творчыя здабыткі».

# Пра белавежскіх зуброў

Пра іх цікавую лекцыю з каляровымі здымкамі прадставіў дац. др **Здзіслаў Пуцэк** з Белавежскага інстытута млекакормячых Польскай Акадэміі навук.

Таксама ў Белавежскай школе была экспанавана выстаўка пра зубра пад назвай «Зубр у вачах дзяцей». Экспанаты выкананы школьнымі дзяцьмі.

(вл)

# „КАНЧЫНА СВЕТУ“

Вера ў няўхільны канец свету, або — кажучы па-народнаму — у «канчыну свету» з'яўляецца цікавым элементам народнай свядомасці. На першы погляд вераванне гэтае звязана з вучэннем царквы і са зместам Апакаліпсы, у якой апісваюцца страшэнныя падзеі, якія маюць адбыцца падчас другога прышэсця Хрыста. У істоце аднак змест народных вераванняў у канец свету зусім іншы

Канец свету ў народнай псіхалогіі быў неразрыўна звязаны з усім народным светапоглядам, са статычным разуменнем гісторыі. Свет, у народным зразуменні, быў створаны такім, якім існуе ён зараз. Такім меў ён існаваць да канца. Народныя звычаі і абрады, нормы міжлюдскіх суадносін, а таксама суадносін паміж людзьмі і прыродаю, мелі свой пачатак у міфічным мінулым. Народныя легенды і міфы ўгрунтоўвалі народныя звычаі, абрады і нормы паводзін. Канец гэтых абрадаў і звычаяў, усялякія змены ў народнай культуры абазначаць мелі няўхільны паварот да стану першабытнага хаасу, які існаваў да стварэння свету, гэта значыць да «канчыны свету». Таму менавіта страх перад канцом свету ўзнікаў у народзе ў вострай форме, асабліва ў тыя часы, калі даходзіла да раптоўных змен у народнай абрадавасці і ў народным жыцці. З гісторыі розных краін можна прывесці мноства прыкладаў страшэнных панік, якія ўзнікалі са страху перад канцом свету. Прывяду адзін такі прыклад з гісторыі Расіі.

У XVII стагоддзі рускі патрыярх Нікан пастанавіў правесці некаторыя рэформы рэлігійнай абрадавасці, мэтай якіх было наблiжэнне рускага праваслаўя да яго першакрыніц — грэцкага праваслаўя. Рэформы былі неістотныя і не датычылі сутнасці рэлігійных вераванняў: замест двума пальцамі пачалі ў Расіі хрысціцца трыма пальцамі, замест Ісус — пісаць Іісус, а васьміканечны крыж заменены на шасціканечны. Гэтыя дробныя і неістотныя перамены выклікалі аднак у Расіі надзвычай шырокі магутны рух у абароне старых рэлігійных форм.

Людзей агарнула неймаверная паніка, пераканане, што ўсе гэтыя перамены выклічуць ні менш ні больш толькі няўхільны канец свету. Людзі пакідалі свае хаты і сёлы, уцякалі ў лясы і палі, жылі ў магілах і трунах, — каб быць больш падрыхтаванымі да канца свету. Змучаныя чаканнем выяўлялі ў яшчэ больш грознай форме свой страх і сваю паніку: паддаваліся самаспаленню. Замыкаліся ў хатах цэлымі сямействамі, забівалі вокны і дзверы, а потым хаты падпальвалі знутры. Падлічана, што за некалькі год у Расіі згарэла такім чынам не менш як 20 тысяч асоб. Мноства людзей у страху перад зменай старых абрадаў разбеглася па лясах і пустынных прасторах Расіі, некаторыя ўцяклі за мяжу на тэрыторыю Польшчы. Жывуць яны да сёння ў некалькіх вёсках нашага ваяводства (аўгустоўскі павет) захоўваючы старую рускую абрадавасць, чыстую рускую мову і доўгія рускія бароды. Гэта так званыя стараверы.

На падобным фоне, хаця ў значна меншай ступені выступіў страх перад канцом свету ў асяроддзі беларускай вёскі міжваеннага перыяду. У тым выпадку пагрозай для народнай абрадавасці і ўсялякіх народных святасцей былі не нейкія распараджэнні, але працэсы, якія адбываліся ў самай грамадскасці. Першая сусветная вайна, масавая дэпартацыя нашага насельніцтва ўглыб Расіі, рэвалюцыя — усё гэта ўздзейнічала на паніжэнне старых народных аўтарытэтаў, заняпад старых народных святасцей, народных вартасцей. Шырылася нявер'е, радыкальныя грамадскія плыні, у новай сітуацыі пагражала паланізацыя і акаталічанне. Усё гэта некаторым уяўлялася, як відавочныя азнакі немінуючага канца свету. Прапаганда канца свету прыбрала шырокія размеры. Пачаліся масавыя паломніцтвы ў святыя месцы, адбылося многа цудаў, многа людзей прадало свае маёмасці, а грошы пазанасілі ў цудоўныя месцы на ахвяры.

Чаканне на канец свету, якое з асаблівай сілай успыхнула ў трыццатыя гады, працягвалася яшчэ ў пэўнай ступені праз перыяд другой сусветнай вайны, а нават у пасляваенныя часы. Зараз гэтыя настроі, як праявы стыхійнай народнай свядомасці, загінулі амаль зусім. Канец свету на тэрыторыі ваяводства прапатуюць зараз толькі розныя веравызнаўчыя групы, як: адвентысты, сведкі Яговы і Даследчыкі Святога пісання. Але гэта ўжо зусім іншая і на нашай тэрыторыі параўнальна новая з'ява.

**Рыгор Паўлюк**




## СУПОЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ БАРАЦЬБА БЕЛАРУСАЎ І ПАЛЯКАЎ

Баявое супрацоўніцтва беларускіх і польскіх рэвалюцыянераў і паўстанцаў умацавалася ў паўстанні 1863 года. Пасля ўпадку паўстання яно мела адданых паслядоўнікаў у рабочым руху Беларусі і Польшчы.

Калі ў Польшчы разгарнула сваю дзейнасць першая польская рабочая партыя «Пралетарыят» на чале з Людвікам Варынскім, у склад яе членаў уваходзіла многа беларускіх маладых рабочых і рэвалюцыянераў. Адным з іх быў Іосіф Бяляўскі. Паходзіў ён з Бельшчыны. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Бельску Падляшскім вучыўся ў Пецярбургу і там уключыўся ў дзейнасць рэвалюцыйных гурткоў рускай і польскай студэнцкай і рабочай моладзі. Затым уступіў у рады «Пралетарыята». Бяляўскі разгортваў сваю рэвалюцыйную дзейнасць пераважна ў Беластоку, яго ваколіцах і ў Варшаве. Займаўся арганізаваннем рэвалюцыйных гурткоў у асяроддзі рабочай і гімназісцкай моладзі, распаўсюджваў нелегальную літаратуру, выясняў рабочым неабходнасць змагання супроць капіталістычнага ладу, выконваў шэраг адказных і небяспечных партыйных заданняў. За сваю рэвалюцыйную дзейнасць быў арыштаваны і высланы на катаргу ва Усходнюю Сібір.

Выдатным дзеячом «Пралетарыята» была Марыя Багушэвіч. Яна паходзіла з прагрэсіўнай беларускай шляхецкай сям'і з ваколіц Слуцка. Была настаўніцай. Пасля арышту царскімі жандарамі Л. Варынскага стала на чале партыі «Пралетарыят». Адбудавала партыйныя арганізацыі, працягвала выдаваць нелегальную рэвалюцыйную газету «Пралетарыят», распаўсюджвала сярод рабочых і прагрэсіўнай інтэлігенцыі нелегальную літаратуру, гуртавала вакол партыі найлепшыя рэвалюцыйныя сілы, праводзіла збор грашовых сродкаў для дзейнасці партыі. Царскія ўлады арыштавалі яе і засудзілі на ссылку ў Сібір. Марыя Багушэвіч адданая рэвалюцыянерка — памерла на сухоты па дарозе ў выгнанне.

У пазнейшы час у рабочым руху Беларусі пачыналася рэвалюцыйная дзейнасць Ф. Э. Дзяржынскага. Ф. Дзяржынскі паходзіў са збяднелай шляхецкай сям'і з мястэчка Койданава (цяпер горад Дзяржынск) каля Мінска. Правадзіў ён актыўную рэвалюцыйную працу ў асяроддзі беларускіх рабочых у гарадах Ліда і Мінск.

Ва ўсіх забастоўках, якія адбываліся ў Беларусі і ва ўсходніх раёнах Польшчы, асабліва ў горадзе Беластоку, прымалі ўдзел у аднолькавай ступені беларускія і польскія рабочыя. Гэта спрыяла сіле рабочага руху.

Апрача Іосіфа Бяляўскага, Марыі Багушэвіч, Фелікса Дзяржынскага ў беларускім і польскім рабочым руху дзейнічала многа іншых выдатных рэвалюцыянераў. Усе яны ахвярна служылі справе еднасці польскіх і беларускіх працоўных у барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўнага люду Беларусі і Польшчы. Яны садзейнічалі росту і ўмацаванню брацкай дружбы паміж нашымі народамі.

### ПЫТАННІ І ЗАДАННЕ

*1. Што вы ведаеце аб дзейнасці І. Бяляўскага?*

*2. Раскажыце аб рэвалюцыйнай дзейнасці М. Багушэвіч.*

*3. Дзе нарадзіўся і дзе пачыналася рэвалюцыйная дзейнасць Ф. Э. Дзяржынскага?*

*4. Якой справе служылі беларускія і польскія рэвалюцыянеры?*




Пад вёскай Скупава на дарозе з Гайнаўкі ў Нараўку легкавая аўтамашына «Варшава» сутыкнулася з фурай. Шафёр гайнаўскага ПЗГС-у Пётр Чурак, выпярэджваючы другі самаход, зачапіў за падводу Міхася Барташэвіча з вёскі Плянта, які ехаў з супрацьлеглага напрамку. У выніку гэтага паранена Дзімітрыя Бойку, які сядзеў на падводзе і пашкоджана самаход.

У аборы селяніна Уладзіслава Кандзёра з вёскі Застава ў Беластоцкім павеце ўзнік пажар. Згарэла абора, а з ёю двое коней, 4 каровы, адна ялоўка, 2 цялят, 4 свінні, 3 авечкі, матацыкл «ВСК» і сельскагаспадарчыя прылады. Разам затраты — 150 тысяч злотых. Агонь праўдападобна зацярушылі самі дамаўнікі.

Шафёр Мікалай Шахэвіч з Нарвы імчаўся пустым аўтобусам ПКС па вуліцы ў Сямяцічах. Зачапіўся ён колам за плуг, які адснежваў вуліцу. Адбіўшыся ад плуга, папаў на дрэва. У выніку таго, аўтобус разбіўся, затраты ацэньваюць на нейкіх 10 тысяч злотых.

Мар'янна Здановіч жыве ў вёсцы Барсукоўцы, Беластоцкага павета. Ёй 17 год. Вучыцца яна ў Беластоку ў 11 класе прафесіянальнай гандлёвай школы. 18 студзеня г.г. выйшла яна нармальна ў школу і ўжо дамоў не вярнулася. Міліцыя яе шукае.

19-цацігадовы Тамаш Рошка і 16-цігадовы Юрка Шумінскі, абодва з Саколкі, падраблялі ашчадныя кніжкі ПКО. Удалося ім на сфальшаваныя кніжкі ўзяць каля 3 тысяч зл. Абодвух камбінатараў арыштавана.

**Асака**

# АД ЛАПЦЯЎ ДА РАКЕТ

**23** лютага — Дзень Савецкай Арміі. У гэтым годзе спаўняецца ёй 50 год. З гэтай нагоды прыгадаем крыху фактаў, якія памогуць чытачам уявіць дарогу, якую прайшла Савецкая Армія.

Савецкая Армія ствaралася ў ходзе грамадзянскай вайны і пад канец яе налічвала 5300 тысяч чалавек. У гэтым ліку было 300 тысяч камуністаў, гэта значыць палавіна ўсяго складу партыі. У барацьбе з інтэрвентамі і белагвардзейцамі аддалі жыццё каля 50 тысяч камуністаў. За гераізм, праяўлены ў грамадзянскай вайне, звыш 15 тысяч чырвонаармейцаў і камандзіраў былі адзначаны ордэнам Чырвонага Сцягу і ганаровым рэвалюцыйным аружжам. 430 асоб атрымалі па дзве ўзнагароды, 55 ваеннаначальнікаў узнагароджаны тройчы, а дзесяць адважных былі ўдастоены чатырох ордэнаў. Двое праслаўленых герояў — Будзённы і Куцякоў — узнагароджаны пяццю ордэнамі Чырвонага Сцягу.

З пераходам краіны да мірнага будаўніцтва кадравы лік Чырвонай Арміі быў планамерна скарочаны. У пачатку 1924 года ў яе шарэгах знаходзілася 562 тысячы воінаў. У 1924—1928 гада была праведзена грунтоўная перабудова Чырвонай Арміі. Побач з кадравымі часцямі існавалі і міліцыйна - тэрытарыяльныя злучэнні. 18 верасня 1925 г. быў прыняты Закон «Аб усеагульным вайсковым абавязку». Ён акрэсліваў строга класавы прынцып камплектавання арміі. У гады першых пяцігодак Чырвоная Армія была пераўзброена на аснове найноўшых дасягненняў навукі і тэхнікі таго часу. Пагроза вайны і наяўнасць у імперыялістычных дзяржавах шматмільённых кадравых армій дыктавала змену тэрытарыяльна-міліцыйнай сістэмы камплектавання Чырвонай Арміі. пераход на кадравы прынцып камплектавання. Вельмі важнае значэнне для гэтага меў прыняты 1 верасня 1939 г. закон «Аб усеагульным вайсковым абавязку». Лік збройных сіл СССР да студзеня 1941 г. асягнуў 4 мільёны 207 тысяч чалавек. •

У гады мірнай працы імперыялісты не астаўлялі СССР у спакою. Мужна змагаліся за Савецкую Радзіму яе сыны. У 1938 г. 26 савецкіх воінаў атрымалі званне Героя Савецкага Саюза за подзвігі ў баях з японскімі захопнікамі ў раёне возера Хасан; у 1939 г. за подзвігі ў баях у раёне ракі Халхін — Гол прысвоена званне Героя Савецкага Саюза 73 воінам. У перыяд вайны з белафінамі сям'я Герояў Савецкага Саюза павялічылася на 420 чалавек. Усяго да пачатку Вялікай Айчыннай вайны налічвалася звыш 600 Герояў Савецкага Саюза.

За баявыя подзвігі ў гады Вялікай Айчыннай вайны 11,5 тысяч воінаў былі ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза (з іх 65 працэнтаў — камуністы), звыш 5 мільёнаў воінаў узнагароджаны ордэнамі і 7,5 мільёна — медалямі.

Услед за беларусам Мікалаем Гастэла, які кінуў свой гарэўшы самалёт на варожую калону, пайшло яшчэ 74 чалавек. Подзвіг Аляксандра Матросава, які закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота, паўтарылі 200 воінаў. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў Камуністычную партыю ўступіла каля 4 мільёнаў ваеннаслужачых. 60 працэнтаў камуністаў са ўсяго складу партыі змагаліся на франтах.

Цяпер аснову баявой магутнасці Збройных Сіл СССР складае ракетнаядзерная зброя. Першая атамная бомба ў СССР выпрабавана ў 1949 г., вадародная — у 1953 г. Міжкантынентальныя і глабальныя ракеты з магутнымі ядзернымі зарадамі складаюць аснову Ракетных войск стратэгічнага назначэння. Ракеты розных тыпаў прыняты на ўзбраенне войск паветранай абароны, сухапутных войск, ваенна-марскога флоту і ваенна-паветраных сіл. Тэхнічная аснашчанасць сучаснай дывізіі Збройных Сіл СССР рэзка павысіла яе баявыя магчымасці. Вага аднаго артылерыйска-мінамётнага залпа дывізіі 1939 г. складала 1700 кілаграмаў, залп сучаснай дывізіі 53 000 кг (без уліку ядзернай зброі). Сучасная мотастралковая дывізія ў параўнанні з дывізіяй 1939 г. пераўзыходзіць апошнюю па танках у 16 раз, па бранетранспарцёрах і бранемашынах у 37 раз, па аўтаматычнай зброі ў 13 раз, па сродках радыёсувязі ў 5 раз. У 1939 г. магутнасць матораў у разліку на аднаго ваеннаслужачага складала 3 конскія сілы, цяпер — звыш 30 конскіх сіл. Ваенная авіяцыя мае на ўзбраенні рэактыўныя машыны, якія лятаюць з хуткасцю 2,5—3 тыс. км у гадзіну. Бамбавыя залпы рэактыўных самалётаў пераўзыходзяць у 5 раз магчымасці самалётаў 1939 года. Асноўнай сілай Ваенна - Марскога флоту сталі атамныя падводныя лодкі. Энергаўзброенасць сучаснай падводнай лодкі ў параўнанні з даваеннай павялічылася амаль у 100 раз.

Цікава выглядае адукацыйны ўзровень сучаснай Савецкай Арміі. Каля 46 працэнтаў асабовага складу гэта людзі з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй. Да 54 працэнтаў мае няпоўную сярэднюю адукацыю, а колькасць асоб, якія маюць толькі пачатковую адукацыю, складае цяпер менш аднаго працэнта. Вымоўны і лік партыйнасці. У 1939 г. савецкія збройныя сілы налічвалі 11,5 працэнтаў членаў і кандыдатаў у члены КПСС і каля 41 працэнта камсамольцаў, цяпер — 22 працэнты збройных сіл складаюць камуністы і 60 працэнтаў камсамольцы.



**1968**

**1918**



# 151 старонка Супрасльскага рукапісу

Нядаўна друк паінфармаваў аб тым, што пасольству Польскай Народнай Рэспублікі ў Вашынгтоне пераказана знойдзены ў Злучаных Штатах каштоўны манускрыпт званы «Супрасльскім рукапісам». Знаходка гэтая мае вялікае значэнне для гісторыі славяншчыны. Ніжэй падаем некаторыя звесткі аб гэтым дакуменце.

Супрасльскі рукапіс з'яўляецца сусветнай славы культурным помнікам, адным з найстарэйшых дакументаў пісаных на царкоўна-славянскай мове, прытым дакументам найбольш абшырным. На змест рукапісу складаюцца апісанні жыцця 24 святых складзеныя ў каляндарным парадку на месяц сакавік і некалькі т. зв. «гамілій» г. зн. павучэнняў на евангельскія тэмы. Рукапіс быў праўдападобна копіяй некалькіх, яшчэ ранейшых (магчыма, што нават з IX стагоддзя) дакументаў і таму з моўнага боку ён вельмі неаднародны.

Рукапіс быў знойдзены ў 1823 годзе ў Супрасльскім манастыры. Знаходчыкам быў прафесар Віленскага універсітэта Міхал Баброўскі. Прафесар Баброўскі даў частку рукапісу да перапісання вядомаму славісту з Любляны Б. Капітараві. Частка гэтая (118 старонак) асталася ў Любляне да сённяшняга дня. Іншая невялікая частка рукапісу (16 старонак) дасталася пасля смерці праф. Баброўскага да Пецярбурга і зараз перахоўваецца ў бібліятэцы імя Салтыкова - Шчэдрына ў Ленінградзе. Найбольшая частка рукапісу (151 старонак) знайшлася ў Варшаве, дзе перахоўвалася да II сусветнай вайны.

Супрасльскі рукапіс быў тры разы публікаваны: у 1851 годзе ў Вене, у 1904 годзе ў Пецярбургу і ў апошнія гады ў Гразу.

Падчас II сусветнай вайны скрыня, у якой знаходзіўся між іншым Супрасльскі рукапіс, была 21 лістапада 1939 года зарэквіравана гітлераўцамі, аднак, у канцы 1941 года звернута Нацыянальнай бібліятэцы, дзе Супрасльскі рукапіс прабываў да варшаўскага паўстання. Пасля паўстання рукапіс зрабаваны быў немцамі і ад таго часу загінуў па ім усялякі след.

Толькі апошнім часам нейкі таямнічы чалавек запрапанаваў у Злучаных Штатах продаж рукапісу. Торг адбыўся у касцеле — за рукапіс заплачана 25 тысяч долараў. Прадаўшчык быў праўдападобна нейкім зладзеем, які зрабаваў недзе, — не вядома дзе і калі — бясцэнны рукапіс. Тым не менш вельмі добра сталася, што знайшоўся ён ў краіне. (п)




На другі дзень Канарыс сустрэўся з плыўцамі. Дваццаць дзевяць маладых мужчын, апранутых у тоўстыя світры і такія ж ганавіцы, застылі, выцягнуўшыся з канца ў канец залы. Гэта былі здаровыя, моцныя людзі, відаць, спартсмены.

Адмірал рушыў уздоўж шарэнгі, уважліва разглядаючы плыўцоў.

— А, стары знаёмы! — сказаў ён дайшоўшы да Густава Глюка.

— Хто вы? — спытаў адмірал, спыніўшыся перад каржакаватым чалавекам з тоўстай кароткай шыяй.

— Боцманмат Эрых Попер.

— Дзе праходзілі службу?

— Спачатку ў вафен СС, затым на тарпедных кацерах.

— Ого! — Канарыс паківаў галавою — А спорт? Вы займаліся спортам?

— Так, я спартсмен. Маю прызы і дыпломы.

Канарыс рушыў далей. Вось ён спыніўся каля левафлангавага.

— Ну, а вы? — спытаў ён разглядаючы круглы ружовы твар плыўца.

— Обер-боцман Фрыц Фалькенберг! — адчаканіў плывец.

— Служылі на караблях?

— Імперскі падводны флот.

— Кім?

— Рулявы-гарызантальшчык.

— Апрача гэтага, обер-боцман вядомы спартсмен, — сказаў Абст. — Два гады запар ён быў прызёрам чэмпіяната краіны па плыванні.

— Цудоўна! — усклікнуў Канарыс. — Я бачу, капітан Абст сабраў тут цвет. Клянуся Богам, з такімі хлопцамі можна браць штурмам рэзідэнцыю самога чорта!

Ён змоўк, збіраючыся з думкамі. I раптам спытаў:

— А хто тут Шустар?

— Я — раздалося з супрацьлеглага канца.

Канарыс павярнуўся на голас:

— Вось вы дзе!.. Ну, выйдзіце са строю, каб я мог глянуць на чалавека, які так спрытна мяне ашукаў. Выходзьце, хай усе паглядзяць на вас!

Са строю выйшаў здаравенны плывец з выцягнутым тварам і даўжэзнымі рукамі.

— Выкладайце, як вы гэта зрабілі! — патрабаваў Канарыс.

— Баюся, што вы памыліліся і прымаеце мяне за іншага, — нерашуча прамармытаў Шустар.

— Я цаню скромнасць, але гэта ўжо занадта! — сярдзіта крыкнуў Канарыс. — Можна падумаць, што гэта не вы ўчора на возеры разам з Глюкам знялі руль майго кацера!

— Я не быў на возеры, — сказаў плывец.

— Дзе ж вы былі?

— Спаў. Спаў, як і ўсе іншыя.

Канарыс павярнуўся да Абста.

— Обермат Йозеф Шустар мінулай ноччу працаваў пад вадой разам з боцманам Глюкам, — сказаў Абст.

— Не, — рашуча запярэчыў Шустар. — Я быў у ложку!

— Глюк! — павысіў голас Абст.

— Обермат Йозеф Шустар працаваў разам са мною, — цвёрда сказаў Глюк. — Нас было трое на возеры: Шустар, Рупрых і я. Мы атакавалі кацер, у якім быў адмірал.

Румяныя шчокі Канарыса пацямнелі.

— Рупрых! — рэзка крыкнуў ён.

Трэці плывец выйшаў са строю.

— Я матрос Конрад Рупрых.

— Вы, я бачу, таксама зараз скажаце, што правялі ноч у ложку, — гнеўна сказаў Канарыс.

— Гэта праўда, я спаў, — сказаў Рупрых. — Мы жывем у адным кубрыку — Шустар, Глюк і я. Мы пайшлі спаць разам. Я спаў як забіты. Раніцай, калі прачнуўся, на ложках былі ўсе трое.

— I боцман Глюк?

— Так!

— Ясна! — зароў Канарыс. — Мне ўсё ясна. Ноччу, пакуль усе вы мірна спалі, нейкі прывід прадзіравіў мой кацер і ў дадатак украў руль. А потым ён ускочыў на бок маторкі і ўчапіўся мне ў грудзі!.. Дурні, вы дзейнічалі дасканала! Я вельмі здаволены. Больш таго, ганаруся такімі хлапцамі... Ну, а цяпер гаворыць старшы. Капітан Абст, вытлумачце, што значаць недарэчныя паводзіны вашых людзей. Гаварыце і ведайце: вінаватыя атрымаюць сваё!

— Обермат Шустар і матрос Рупрых гаварылі праўду, — сказаў Абст. — Яны сапраўды спалі. Кацер атакаваў Глюк.

Быццам вецер прайшоў па пакоі. Строй хістануўся і зноў замёр.

— Аднак вы не павінны вінаваціць Глюка, — працягваў Абст. — Сказаўшы вам няпраўду, ён выканаў мой загад. Такім чынам ва ўсім вінаваты я.

— Але навошта вы паступілі так? — спытаў Канарыс.

— Людзі, якія стаяць перад вамі — будучыя героі, — сказаў Абст. — Прыдзе час, і ўвесь свет схіліць галовы перад іх подзвігамі. Мне вельмі хацелася, каб яны спадабаліся вам. Я сказаў, што на возеры будуць дзейнічаць трое. Я паслаў аднаго. Я ведаў — ён справіцца. I я падумаў: тым больш вы здзівіцеся, калі высветліцца, што не трое, а толькі адзін дыверсант так дасканала працаваў пад вадой.

Абст змоўк.

Канарыс глянуў на Глюка. Той стаяў разгублены і заклапочаны. Не, тут была нейкая тайна.

— Добра! — прамармытаў Канарыс і, павярнуўшыся, пакінуў пакой.

Калі Абст вярнуўся ў свой кабінет, Канарыс сказаў:

— Я не веру, што Глюк быў адзін.

— I вы не памыліліся, — усміхнуўся Абст. — Супраць кацера працавалі трое дыверсантаў.

— Хто?

— Тыя самыя людзі. Было так, як дакладваў Глюк.

— Але Рупрых і Шустар супярэчаць гэтаму! Значыць, хлусілі?

— Яны не хлусілі, — уздыхнуў Абст. — Яны забылі...

— Забылі аб тым, што чатыры гадзіны боўталіся ў халоднай вадзе?

— Усё забылі, — катэгарычна сказаў Абст. — Гэта найважнейшае, што я хацеў паказаць вам. У клініцы вы бачылі, чаго я дабіўся ў доследах над камандзірам «Віперы». А на возеры вам было паказана дзеянне іншага прэпарата. Вы прысутнічалі пры чарговым эксперыменце.

— Што гэта за прэпарат? Ён дзейнічае на памяць?

— Так.

— I гэта надоўга?

— На жаль, не! Працягласць стану, калі чалавек пазбыўся памяці і стаў як бы жывой машынай, не перавышае чатырох — шасці гадзін.

— Аднак ты ўжо многага дабіўся, —

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАТРЭБНЫ АРГАНІЗАТАР

У вёсцы Крывяцічы, якая налічвае каля 100 гаспадароў, няма дзе правесці вольнага часу. Моладзі многа, аднак яна абсалютна нічога не робіць. У нас ёсць святліца (выканчаная, аднак не аддана ў карыстанне), у якой можна было б штосьці сарганізаваць, напрыклад, клуб «Рух» ці бібліятэчны пункт. У нас існуе гурток БГКТ, ЛьЗС і СВМ, аднак гэтыя арганізацыі нічога не робяць. Члены іх не цікавяцца культурнаю дзейнасцю ў сваёй вёсцы. Чаму? Таму, што ў вёсцы няма добрага арганізатара, а таксама няма дапамогі ўлад, якія займаюцца развіццём культуры ў вёсках. Віна ў гэтым і ГРН у Орлі, якая не задбае, каб святліцу ў Крывяцічах аддаць у карыстанне.

**Янка Кірыдзюк**
Крывяцічы

## ШКОЛА ДАПАМАГАЕ ЗВЯРАМ І ПТУШКАМ

На дварэ стаіць суровая зіма, і часта можна сустрэць каля забудаванняў лясных і польных жыхараў: зайцаў, курапатак. Аднак брэх сабак палохае іх, і яны ўцякаюць. Вядома, няма чаго ім есці зімою, таму яны шукаюць корму каля забудаванняў і стагоў. Наша школа ў Катлах (Бельскі павет) пастанавіла дапамагчы звярам і птушкам. Дзеці нашай школы разносяць сена для зайцаў. Ёсць кармушкі, якія прывёз паляўнічы гурток. У гэтыя кармушкі мы носім корм. Вядома, што такая падкормка многа значыць. Заўсёды можна ўбачыць ў кармушках курапатак.

**Мікола Заброцкі**
Агароднікі

## ЗАНЯТКІ

Ужо другі год праводзяцца ў Тафілаўцах, на Гайнаўшчыне, занятні для сялян. Такая сельская падрыхтоўка вельмі патрэбная і карысная для гаспадароў, тым больш маладым, якія ўжо па-новаму думаюць гаспадарыць на сваіх палетках і сенажацях. На занятках, якія адбываюцца два разы ў тыдзень у хаце грам. Паўла Петручука, можна многа чаго новага даведацца аб апрацоўцы зямлі па-сучаснаму. Таксама многа вядзецца гутаркі аб жывёлагадоўлі. Урокі вядзе аграном Толік Патэюк. Курс закончыцца вясною агульным экзаменам.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

сказаў Канарыс. — Як былі «апрацаваны» Шустар і Рупрых?

— Я ўвёў ім прэпарат пасля таго, як вы вырашылі наладзіць начны агляд на возеры.

— А Глюк?

— Яго я не чапаў. Праз чвэрць гадзіны, калі Шустар і Рупрых былі «гатовы», яны атрымалі заданне. Вярнуўшыся з возера, плыўцы ляглі спаць. Як яны вялі сябе потым, вы ўжо ведаеце.

— Глюк цяпер астаўся з імі?

— Што вы, шэф! Ён у суседнім пакоі. Ён будзе там, пакуль мы з вамі не пагаворым. Ды і наогул за яго можаце не хвалявацца. У Глюка медаль за праплыццё Ла-Манша і... пятнаццаць год катаргі за «мокрыя» справы. З катаргі яго вызваліў я. Ён надзейны, бо ведае, што заўсёды можа вярнуцца ў турму...

Канарыс кіўнуў.

— Я хацеў паведаміць вам яшчэ нешта, — сказаў Абст. — Бачыце, прэпарат — толькі адзін напрамак доследаў. Адзін са шляхоў да мэты. Ёсць і іншы шлях: хірургічнае ўмяшанне ў дзеўнасць чалавечага мозгу. Але я абмежаваны ў матэрыяле. Прысылаюць мала і не заўсёды тое, што трэба. Мне неабходны здаровыя людзі, поўныя энергіі і сіл. А я атрымліваю лагернікаў, якія ледзь валочаць ногі.

— Пацярпі, Артур, — сказаў Канарыс, — хутка ў цябе будзе колькі захочаш матэрыялу: вайна не за гарамі.

— Я вельмі спадзяюся на палонных.

Канарыс памаўчаў, потым зрабіў знак Абсту.

— Ну-ка, — сказаў ён, — пакажы мне яшчэ разік папку Брэтмюлера. Чартоўскі грот не дае мне спакою. Недзе там, глыбока пад вадою, спачывае «Віпера». А ў ёй партфель з амерыканскага самалёта!

Абст зноў дастаў з сейфа жоўтую папку.

**Працяг будзе**

## У МІЛЕЙЧЫЦКАЙ ГРАМАДЗЕ

У грамадзе Мілейчыцы сяляне засяваюць збожжам 2584 га. А вось сеўнікаў там малавата. Налічваецца іх толькі 70 Прыпадае на адзін сеўнік 25 га. У грамадзе больш як 170 гаспадароў сее збожжа не сеўнікамі, а ўручную. Праўда, не ва ўсіх вёсках аднолькава развіваецца сельскагаспадарчая вытворчасць. Асабліва гэта бачна на прыкладах жывёлагадоўлі. У Мілейчыцкай грамадзе ў мінулым годзе прыпадала на 100 га зямельных угоддзяў 41 штука быдла.

А калі разыходзіцца аб паасобныя вёскі, дык тут надзвычай цікавыя справы. У Клімковічах прыпадае на 100 га 73 штукі быдла, у той час, калі ў Мілейчыцах прыпадае толькі 33 штукі. Нядрэнна таксама з развіццём жывёлагадоўлі ў Навасёлках (52 штукі) і Паканеве (51 штука).

**Міхась Вішанка**
Мілейчыцы

## ЗУБАВА

Вырастаюць у вёсцы новыя прыгожыя цагляныя дамы.
Фота: Уладзімір Весялоўскі
Пасынкі

## Сардэчныя тайны

### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Пару год таму ў нашай вёсцы арганізавалася вечаровая школа. І я закончыў такім чынам пачатковую школу. Разам са мною хадзіла Валя. Яна з маёй вёскі. Прыгожая і разумная дзяўчына. Пасля сканчэння пачатковай школы я паступіў у сельскагаспадарчы тэхнікум у Беластоку. Цяпер з'яўляюся ўжо ў 4-ым класе. Валя скончыла толькі пачатковую школу. Мае бацькі хочуць, каб я, скончыўшы тэхнікум, пайшоў далей вучыцца і каб выехаў працаваць у горад. Я маю намер вучыцца далей (вучуся добра), аднак хачу быць аграномам і працаваць на вёсцы. Валя таксама рыхтуецца да экзаменаў у карэспандэнцыйны агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку. Я пакахаў Валю, а яна мяне. Маю ўжо 22 гады і хацеў бы ажаніцца з ёю, аднак на перашкодзе стаяць мае бацькі. Гавораць, што Валя гэта не мне жонка, што я павінен ажаніцца з дзяўчынай з горада, калі пайду там працаваць. А я не магу жыць без Валі. Не ведаю, што рабіць, каго слухаць? Парай.

Сцёпа з Гайнаўшчыны

Дарагі Сцёпа!

Мне здаецца, ты павінен кончыць тэхнікум, бо асталося табе ўжо нямнога, і тады ажаніцца. Бо ўсе гэтыя цырымоніі звязаныя з жаніцьбай могуць перашкодзіць у навуцы. Ты ж ужо на 4-тым курсе! А што датычыць Валі, дык напэўна павінен ты слухаць свайго сэрца. Пастарайся пераканаць сваіх бацькоў, тым больш, што і Валя мае намер вучыцца.

Жадаю ўсяго добрага

Сэрцайка.

**Старшыня Бельскага аддзела БГКТ уручае членскі білет для Веранікі Леанюк.**

## УРУЧЭННЕ ЧЛЕНСКІХ БІЛЕТАЎ

У канцы студзеня ў Плёсках быў рэактываваны гурток БГКТ. Зараз налічвае ён 20 членаў. Узначальвае яго Вераніка Леанюк. 3-га лютага на ўрачыстае ўручэнне членскіх білетаў прыбылі: член прэзідыума ГП Мікола Серадзінскі, старшыня Бельскага аддзела БГКТ Уладзімір Раеўскі, сакратар мясцовай партыйнай арганізацыі Уладзімір Ляшэўскі.

Тэкст і фота
**Павал Зінкевіч**
Бельск

## ПАЛЯВАННЕ НА ЗАЙЦАЎ

Праязджаючы дарогаю з Плянтаў у Новую Волю (Беластоцкі павет), кідаецца ў вочы велізарны абшар палёў і пералескаў. Жыве тут многа зайцаў. Кожны год у гэтым месцы праводзяцца паляванні на «шаракаў». Гэтак было і нядаўна. У Плянты прыехалі паляўнічыя з Беластока, арганізавалі нагоншчыкаў, папрывязвалі кіламетравай даўжыні сеткі, якімі жыўцом мелі лавіць зайцаў. У гэты дзень было злоўлена 8 зайцаў. Шэрых зайцаў высылаюць за мяжу.

**Чарот**
Беластоцкі павет

## 10 ГА Ў КАВАЛКАХ

Вёска Белкі, што ў Гайнаўскім павеце, налічвае 62 гаспадары. Сапраўдных гаспадароў, якія належна апрацоўваюць свае гаспадаркі і выконваюць дзяржаўныя абавязкі ў 100% ёсць толькі 34. Апошнія гаспадары — гэта пераважна старыя людзі, якім трэба памагаць, бо самі яны не ў сілах апрацоўваць усю зямлю. Іх гаспадаркі або часткова, або поўнасцю ляжаць аблогай. Амаль кожны гаспадар мае па 10 гектараў зямельных угоддзяў. Той гаспадар, які мае 10 га зямлі, а знаходзіцца яна нават і ў 248 кавалках, не зможа належна даглядзець яе, бо нават калі накладзе воз гною пад бульбу, дык мусіць часамі развозіць яго на пяць або шэсць палосак. У вёсцы ёсць 138 га дзяржаўнага фонду зямлі, якая пераважна ляжыць аблогай. З вёскі Белкі штогод людзі выбіраюцца ў горад, кідаюць свае гаспадаркі і зноў аблогі павялічваюцца. Калі пройдзешся на палеткі, то аж страх бярэ, што толькі зямлі ляжыць неапрацаванай. Трэба, каб аб гэтым сур'ёзна падумалі павятовыя ўлады ў Гайнаўцы і каб у вёсцы Белкі зрабіць як найхутчэй камасацыю зямлі. Каб пачалася камасацыя зямлі, то было б перakазана дзяржаве каля 300 гектараў. Так сама справы выглядаюць і ў суседняй вёсцы Сакі. Напэўна ў гэтых дзвюх вёсках сабралася б каля 600 гектараў, на якіх можна было б арганізаваць ПГР. Тады было б лягчэй жыць гаспадарам і дзяржава мела б даход. Гэтую справу трэба як найхутчэй перадумаць і прыступіць да яе рэалізацыі.

**М. Лук'янюк**
Гайнаўскі павет

## АМАТАРСКІЯ КАЛЕКТЫВЫ

Аматарскі калектыў у Рыбалах складаецца з 20-ці асоб. У яго праграме песні, скетчы і дзве п'есы: «Конская кніжка» і «Хто прышоў ноччу». Кіраўніком драмгуртка з'яўляецца настаўнік Сяргей Філіпюк. 28 студзеня моладзь выступіла ў сваёй вёсцы.

✲

Самадзейнікі з Паўлаў падрыхтавалі таксама дзве пастаноўкі: «Конскую кніжку» і «Зямлю». З вялікім поспехам выступалі яны ў сваёй вёсцы. Плануюць выехаць таксама з пастаноўкаю ў іншыя вёскі.

**Мікалай Нікіцюк**
Паўлы

## ГРАМАДСКАЙ ПРАЦАЙ

У палавіне снежня мінулага года, нягледзячы на мароз, жыхары Коматаўцаў прыступілі да грамадскай працы пра пабудове памяшкання на краму. Зрабілі выкапы, потым фундаменты, сцены і нават пакрылі. Па 4 і 5 дзён грамадска працавалі М. Севасцьянюк, Е. Яраш, І. Крук, М. Томчык і іншыя. Засталося толькі выканчыць будынак, што зробяць з прыходам вясны.

**Сатурн**
Беластоцкі павет

# КІНО

**Праграма на 27.II. — 3.III. 1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Bitwa nad Wołgą'' (radz.), 27—28. II. ,,Gorące lato'' (jugosł.), 29.II.—1.III. ,,Galia'' (franc.), 2—3.III.

**Дубіны**

,,Bicz boży'' (polski), ,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radz.), 28.II.—3.III.

**Нараўка**

,,Zwariowana noc'' (polski), ,,Szesnasta wiosna'' (radz.), 2—3.III.

**Нарва**

,,Mroźny poranek'' (radz.), ,,Złodziej samochodów'' (radz.), 28.II. —3.III.

**Чыжы**

,,Lenin w Polsce'' (polski), ,,Gorzkie dno rzeki'' (jugosł.), 28. II.—3.III.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Zielone światło'' (radz.), ,,Sami na wyspie'' (jugosł.), 28.II.—3.III.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Partyzanckim szlakiem'' (jugosłowiański), ,,Wojenka, wojenka'' (rumuński), 28.II.—3.III.

**Орля**

,,Zarezerwowane dla śmierci'' (NRD), ,,Złodziej brzoskwiń'' (bułgarski), 28.II.—3.III.

**Райск**

,,Dialog'' (węgierski), ,,Sami pośród miasta'' (polski), 28.II.—3.III.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

,,Wojna trwa'' (włoski), ,,Czterej pancerni'' (polski), 28.II.—3.III.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Piąty jeździec apokalipsy'' (czeski), 27—28.II. ,,Królowa stacji benzynowej'' (radz.), 29.II.—1.III. ,,Westerplatte'' (polski, 2—3.III.

**Шудзялава**

,,Iwan Groźny'' (radz.) I—II s. 28.II. —3.III.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Podróż na ziemię'' (polski), ,,Porucznik jazdy'' (radz.), 28.II.—3.III.

**Новы Двор**

,,Kto jest bez winy'' (czeski), ,,Pluton 317'' (franc.), 2—3.III.

**Ліпск**

,,Kochajmy syrenki'' (polski), ,,Ściana czarownic'' (polski), 2—3.III.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7749

# СТАЯКІ

— Любачка, а дзе твой Антон?

— А там, мая даражэнькая, дзе і твой Дзміцер!

— Нам, бабам, заўсёды ёсць якаясь работа ў хаце. А для мужчын, як толькі снег нападаў, то кожны дзень свята.

— Але, нябось, да святліцы якось нікога не цягне.

— Але за гэта наша вясковая крама кожны дзень аж трэскае!..

— Ой, гавару табе, часам аж трудна за гэтымі стаякамі працінуцца да прылаўка.

— На дварэ мароз трэскае, а крамар задаволены, бо на дровах мае вялікую ашчаднасць.

— Стаякі за цэлы дзень так надыхаюць, што і ў печы паліць не трэба.

— Стаяць, праўда, нашыя стаякі, стаяць кожны дзень у краме, але часта і раскручваюцца...

— Мой Антон на адвячорку ледзь прывалокся. Толькі нос чырвоны, як у дзеда Мароза!

— То яшчэ добра, што гарэлкі ў краме нельга трымаць.

— Бо нашая бабская ліга забараніла...

— Але й мужыкі на розум не хварэюць. Навучыліся мяшаць піва з віном і адзін другога частуе гэтаю культурай, аж пакуль не панапіваюцца...

— Пра ўсякія курсы для гаспадароў пішуць толькі ў газетах і гавораць у радыё, а ў нас вось якія курсы штодзень адбываюцца.

— Паміж стаякамі курсуе з рук у рукі ў вялікім куфлю мешаная культура!

— Але што ж, зямля круціцца і галава п'яная круціцца, толькі не ў той бок, што трэба.

— І таму, мая даражэнькая, праз гэтыя стаякі нам не раз лабы трэскаюць!..

**Цётка Мальвіна**

# НІЎКА

## АРБІТР

### БАЙКА

Сустрэліся аднойчы Чэмер і Палын.
Пасля прыстойнай, хоць і пустой гаворкі, —
Аб тым, аб сім, аб дробным і малым —
Усчалі спрэчку: хто з іх болей горкі?
— Я, — кажа Чэмер.
— Я, — Палын яму пярэчыць, —
Успомні, пра мяне і ў песні ёсць, дарэчы:
Пра палынок, пра горкую траву...
— А я ў прыказках людскіх жыву, —
Пачаў і Чэмер ганарыцца, —
Успомні: Чэмер, Чэмер, Чамярыца!..
Спрачаліся, спрачаліся, а вынікаў — няма.
— Вы толькі час марнуеце дарма, —
Умяшаўся Макавы Цыбук
І падміргнуўшы хітра,
Прапанаваў: вы Перцу Струк
Узялі б за арбітра,
Ён, карацей гаворачы,
Шмат разумее ў горычы.
Звярнуліся. Вось так, маўляў, і так,
Разваж, хто з нас гарчэйшы, калі ўзяць на смак?
Струк Перцу выслухаў і аж пазелянеў
(Я-а-кі-я ягамосці!),
А потым і пачырванеў
Ад крыўды і ад злосці
Пры гэтай прапанове
І адказаў:
— Панове,
Хай мой прысуд не будзе мне ў папрок,
Ён канчатковы, справядлівы і кароткі:
І ты салодкі, Чамярок,
І ты, Палын, — салодкі.
А хто з вас болей саладжавы —
Не ведаю і ведаць не хачу, ей-права.
А горкі... горкі толькі я,
І прывілея горычы — мая.

А байка для таго, каб не рабіў хто спробы
На суд ісці да зацікаўленай асобы.

**Сяргей Дзяргай**

### ПЫТАННЕ

Маці гатуе суп. Кідае туды лаўровы ліст.

— Мама, — пытае маленькая дзяўчынка, — навошта ты кладзеш гэтае лісце ў суп? Усё роўна яго ніхто не есць.

### КАНСПЕКТ З КАНСПЕКТА

— Чаму ў вас такі маленькі канспект?

— А я яго заканспектаваў з другога канспекта.

### АДНОЙЧЫ Ў АЎТОБУСЕ

— Калі ласка, сядайце! — прапанавалі адной жанчыне.

— Няма калі рассяджвацца, — дзелавіта адказала тая, — і так на работу спазняюся.

### ЧАМУ

Настаўнік. — Ваша работа па малаку змясцілася ў 10 радках, у той час як работа вашага сябра заняла 2 старонкі!

Вучань. — Я пісаў сваю работу пра згушчонае малако.

### ЦУДОЎНЫ

— Па-мойму, бокс — цудоўны від спорту!

— Вы самі баксёр?

— Не, я зубны ўрач.

### ЛЕПШ

Цырульнік. — Значыцца, я раблю прабор на баку?

Кліент (рассеяна). — Не, лепш зрабіце яго на галаве.

### АДКУЛЬ

— Афіцыянт, адкуль можа ўзяцца такая жорсткая курыца?

— Напэўна з крутога яйка.



Усё людское нам не чужое.

### ПАРАДА ЎРАЧА БІСМАРКУ

Аднойчы, калі Бісмарк быў на курорце ў Марыенбадзе, ён вырашыў звярнуцца да паслуг мясцовага ўрача. Лекар пачаў падрабязна распытваць яго пра сімптомы хваробы. Страціўшы цярплівасць, «жалезны канцлер» запатрабаваў:

— Замест усіх гэтых роспытаў вы лепей прадпісалі б мне якінебудзь курс лячэння.

У адказ на гэта лекар параіў Бісмарку:

— Тады я рэкамендаваў бы вашай яснавяльможнасці звярнуцца да ветэрынара, таму што гэта адзіны ўрач, які не задае пытанняў сваім пацыентам.

### СПРЭЧКА

Жырафы спрачаліся са страусамі, што важней — галава ці крылы.

— Крылы, — сказалі страусы.

— Каб іх не было, куды б мы хавалі галовы?

— А без галавы як бы вы да гэтага дадумаліся, — адказалі жырафы.

### БУДУЧЫ ШАФЁР

— Міша, кім ты хочаш быць, як вырасцеш? — запытала маці ў сына.

— Шафёрам!

— Чаму?

— Каб ты купіла мне сапраўдную машыну.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Колі Кендыся і яго сяброў Васі Масальскага, Вані Хіліманюка і Мішы Куліка з вёскі Мора, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п. з.

## ВОСЕМНАДЦАТЬ ЛЕТ

Стихи В. Застожного
Музыка О. Гришина

За рекой, за лесом
Солнышко садится,
Что-то мне, подружки,
Дома не сидится.
Сладкая истома,
Черемухи цвет.
Усидишь ли дома
В восемнадцать лет?

Звездочки - росинки
На лугах мерцают.
Сердце ждет чего-то,
Бьется, замирает.
Шорохи ночные,
Мягкий лунный свет.
Зори золотые,
Восемнадцать лет.

Паренек кудрявый
Прошептал три слова
И увел девчонку
От крыльца родного.
Мята луговая
Уронила цвет,
Радость молодая
В восемнадцать лет.

За рекой, за лесом
Солнышко садится.
Мне теперь, подружки,
Дома не сидится.
С ветки облетает
Черемухи цвет.
В жизни раз бывает
Восемнадцать лет.

# КУРЁЗЫ

### НОВЫ РЭКОРД

У рэдакцыях англійскіх газет доўга круцілі галаву над тым, каго пасласць на першае выкананне англійскім піяністам Рычардам Тупам твора французскага кампазітара Сацье «Раздражненне». З аднаго боку, трэба было, несумненна, пасласць музычнага крытыка, паколькі гутарка ішла аб музыцы. Але з другога боку, улічваючы працягласць выканання — 25 гадзін (?!), не шкодзіла б накіраваць спартыўнага рэпарцёра, які прывык да працяглых нагрузак... Як бы там ні было, Рычард Туп сыграў твор за... 22 гадзіны. Як гэта ён здолеў зрабіць?

«Я не рабіў ніякіх перапынкаў, за выключэннем чатырохмінутнай перадышкі і васьмі мінут, патрачаных на каву і бутэрброды».

Піяніст вытрымаў музычны марафон, але слухачы аказаліся менш стойкія. З 50 чалавек, якія прыйшлі на канцэрт, да канца выседзеў... толькі адзін.

### СУЧАСНЫ РАБІНЗОН

У амерыканскім горадзе Лос-Анжэласе аб'явіўся новы Рабінзон Круза, які хоча паўтарыць вопыт свайго славутага папярэдніка — паехаць з Пятніцам на маленькі бязлюдны востраў у Ціхім акіяне. Аднак у яго планы ўнесены важныя змены ў чыста амерыканскім духу. У ролі Рабінзона будзе выступаць 40-гадовы Брус Джонсан, а ў ролі Пятніцы... 22-гадовая былая медсястра Шары Квам. Падарожнікі, таксама ў адрозненне ад гераў вядомай кнігі, бяруць з сабой сякія-такія рэчы — купальныя касцюмы, фотаапарат і запас фотаплёнкі...





2



3



4



5



6



7



8








Апошняе слова часта застаецца за тым, хто яго не гаворыць.